# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 43 (253) 29 кастрычніка — 4 лістапада 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ

## УЗНАГАРОДА ЗА ТАЛЕНТ І ГРАМАДЗЯНСКУЮ МУЖНАСЦЬ











**У Доме дружбы з замежнымі краінамі адбылася цырымонія ўзнагароджання народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава ордэнам "За заслугі перад Італьянскай Рэспублікай". У сённяшні час знерваваных адносінаў нашай краіны з буйнейшымі дзяржавамі Захаду мы палічылі рэпартаж з гэтай падзеі вартым першай паласы нашай газеты.**

**Павіншаваць найбуйнейшага з сучасных беларускіх празаікаў прыйшлі вядомыя літаратары, дэпутаты Вярхоўнага Савета, паслы еўрапейскіх краін у Беларусі. Ад імя Прэзідэнта Італьянскай Рэспублікі ордэн уручыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Джан-Лука Берцінета. Паводле ягоных словаў, ён з вялікай радасцю выканаў гэтае даручэнне, бо шмат зрабіў асабіста, каб адбылося само ўзнагароджанне. Творчасць Быкава добра вядомая ў Італіі ўжо шмат гадоў, усе ягоныя аповесці былі перакладзеныя і прачытаныя з захапленнем. Чытачы высока ацанілі гарачы гуманізм быкаўскіх твораў, прысвечаных Другой сусветнай вайне. Хаця сама Італія, па словах сіньёра Берцінета, была ў тую вайну "на няправільным баку", сённяшнім грамадзянам гэтай краіны вельмі блізкая галоўная ідэя гэтых аповесцяў, ідэя адмаўлення гвалту ў міжасабовых і міжнародных адносінах. Новыя творы Быкава адкрылі заходняму чытачу шмат невядомых нюансаў псіхалогіі сталінізму. І зараз пісьменнік застаецца нязменным у сваіх патрыятычных і дэмакратычных перакананнях, што надае яму вялікі аўтарытэт у сённяшняй моладзі і інтэлігенцыі.**

**Яшчэ ў 1988 годзе група італьянскіх інтэлектуалаў звярнулася да ўрада з просьбай узнагародзіць выбітнага беларускага празаіка, але справу замарудзілі бюракраты, якіх хапае ў кожнай дзяржаве. Сіньёра Берцінета праз некалькі тыдняў мусяць прызначыць паслом Італьянскай Рэспублікі на Украіне, і таму ён не хаваў задавальнення ад таго, што паспеў да свайго ад'езду ў Кіеў асабіста ўзнагародзіць чалавека, які стаў гонарам беларускай нацыі і культуры.**

**"Віноўнік" урачыстасці, са свайго боку, папрасіў перадаць словы ўдзячнасці Прэзідэнту Італіі і запэўніў, што заўсёды з увагай і павагай ставіўся да вялікай італьянскай культуры, да народа і ўрада гэтай краіны. Гэты акт узнагароды, падкрэсліў Васіль Быкаў, ён разглядае як факт міжнароднага прызнання беларускай нацыі, дзяржавы і культуры і перадусім — той яе часткі, якая ў сённяшніх умовах бароніць дэмакратыю, юрыдычныя і маральныя законы цывілізаванага грамадства. Сёння наша краіна перажывае крызісны момант свайго развіцця, але ва ўсе часы чалавека і нацыю жывіла надзея на лепшую долю.**

**Жыве гэтая надзея і ў нас, супрацоўнікаў "Культуры". Вялікі Вам дзякуй за мужныя і мудрыя творы, Васіль Уладзіміравіч, і — нашыя віншаванні!**

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# СОНЦА І МОВА МАЛДОВЫ

На Беларусі з 17 па 27 кастрычніка прайшлі Дні культуры Рэспублікі Малдова ў Рэспубліцы Беларусь — цэлых дзесяць дзён у Мінску адбываліся прэс-канферэнцыі, мастацкія выставы, канцэрты, спектаклі.

23 кастрычніка была праведзена прэс-канферэнцыя, дзе міністр культуры Рэспублікі Малдова Міхаіл Чыбатару і міністр культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасноўскі адказалі на пытанні журналістаў. На прэс-канферэнцыі таксама прысутнічалі малдаўскія і беларускія дзеячы культуры: Марыя Біешу — народная артыстка СССР, Яўген Дога — народны артыст СССР, Валянцін Гога — дырэктар "Малдканцэрта", Уладзімір Курбет — кіраўнік танцавальнага калектыву "Жок", Юры Карачун — дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь і іншыя.

Як адзначыў міністр культуры Рэспублікі Малдова: "Было б сумна, калі б нашы культурныя сувязі мелі эпізадычны характар. Я ўпэўнены, што наша супрацоўніцтва з кожным годам будзе павялічвацца. Міністр культуры Рэспублікі Беларусь, у прыватнасці, падкрэсліў: "У нас завязваюцца кантакты па розных накірунках культуры".



*Знаёмства з выставай малдаўскіх мастакоў.*



*Дванаццацігадовы скрыпач Іліян Гырнец.*
*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.*

Напрыканцы прэс-канферэнцыі Аляксандр Сасноўскі перадаў малдаўскай дэлегацыі ліст з віншаваннямі ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

У той жа дзень у Нацыянальным мастацкім музеі адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы малдаўскіх мастакоў. Беларускім гледачам прадстаўлены самыя розныя творчыя накірункі — ад рэалізму да постмадэрнізму. Але хочацца адзначыць, што большасць прац адлюстроўваюць новыя нетрадыцыйныя мастацкія напрамкі, якія зараз распрацоўваюць творцы і нашай краіны.

Уражваюць працы М.Грэку "І я буду зямлёй", В.Дахатару "Дыялог", Т.Збырня "Калі я стану зямлёй". Усе карціны неардынарныя: акрамя таго што яны фіксуюць думкі і мроі творцаў, яны насычаны непаўторным нацыянальным каларытам. Калі разглядаеш працу Д.Балбачону "Хмары", падаецца, што мастак знайшоў новую фантастычную коўдру, якая часам нацягваецца на небасхіл. Яна цёплая і халодная, і добрая, і ў той жа час самы час нагадвае краты.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

***НАВІНЫ З МАСКВЫ***

# У ПРЭЗІДЭНТА БАЛІЦЬ СЭРЦА... ЗА КУЛЬТУРУ

Расійскі прэзідэнт Барыс Ельцын рыхтуецца да аперацыі на сэрцы і, вядома, цяпер не можа бываць на прэм'ерах спектакляў, іншых культурна-відовішчных мерапрыемствах. Але любоў да мастацтва не пакідае яго хворае сэрца. Нават працуючы ў абмежаваным па часе перадаперацыйным рэжыме, ён пастаянна трымае руку на пульсе культурнага жыцця краіны і прымае важныя для развіцця культуры рашэнні.

Нядаўна кіраўнік дзяржавы падпісаў указ аб стварэнні Савета пры Прэзідэнце Расійскай Федэрацыі па культуры і мастацтве, зацвердзіў Палажэнне аб Савеце і яго склад.

Цікава, што Савет узначаліў сам Прэзідэнт. Яго "правай рукой", першым намеснікам стаў Марк Захараў — мастацкі кіраўнік Маскоўскага тэатра "Ленком". Намеснікам старшыні Савета зацверджаны таксама Кірыл Лаўроў — прэзідэнт Міжнароднай канфедэрацыі тэатральных саюзаў і Юры Веліхаў — віца-прэзідэнт Расійскай акадэміі навук. У склад Савета ўвайшлі пісьменнік Віктар Астаф'еў, Рыгор Бакланаў, Фазіль Іскандэр, Юрый Каракін, Булат Акуджава, кінарэжысёры Ралан Быкаў, Мікіта Міхалкоў, Эльдар Разанаў, акцёры Эліна Быстрыцкая, Міхаіл Ульянаў, Генадзь Хазанаў, піяніст Мікалай Пятроў, спявак Андрэй Макарэвіч, іншыя вядомыя дзеячы культуры і мастацтва, навукоўцы, кіраўнікі творчых саюзаў і буйных устаноў культуры, а таксама міністр культуры Яўген Сідараў — усяго 40 чалавек.

Чым жа будзе займацца прыпрэзідэнцкі Савет, якія яго задачы і функцыі? Адказ на гэтае пытанне вынікае з Палажэння аб Савеце, якое ўтрымлівае аж 13 пунктаў.

Мяркуецца, што Савет па культуры і мастацтве будзе пастаянна дзейным кансультатыўным органам і возьме на сябе дзве важнейшыя функцыі — інфармавання Прэзідэнта аб працэсах, якія адбываюцца ў галіне культуры і мастацтва, і забеспячэння ўзаемадзеяння кіраўніка краіны з арганізацыямі і дзеячамі культуры і мастацтва.

Даволі грунтоўна сфармуляваны асноўныя задачы Савета. Гэта — падрыхтоўка прапаноў Прэзідэнту па вызначэнні напрамкаў дзяржаўнай культурнай палітыкі і мер па яе рэалізацыі, аналітычных і інфармацыйных матэрыялаў, удзел у падрыхтоўцы і экспертызе праектаў указаў і распараджэнняў па пытаннях культуры і мастацтва, праектаў федэральных законаў і іншых нарматыўна-прававых актаў, якія датычаць культурнай сферы, выпрацоўка рэкамендацый па кадравых пытаннях у галіне культуры, што ўваходзяць у кампетэнцыю Прэзідэнта, прапаноў па сацыяльнай абароне работнікаў культуры і мастацтва. Зоймецца Савет і падрыхтоўкай прапаноў па канкрэтных грамадска значных праектах у галіне культуры, прыцягненне да рэалізацыі дзяржаўнай культурнай палітыкі недзяржаўных устаноў культуры, творчых саюзаў, фондаў, а таксама фізічных асоб. У полі зроку Савета будуць пытанні ўзаемадзеяння федэральных структур з органамі дзяржаўнай улады суб'ектаў Расійскай Федэрацыі, міждзяржаўнага культурнага супрацоўніцтва, прапаганды дасягненняў расійскай культуры.

Савет будзе збірацца на свае пасяджэнні не радзей як адзін раз у два месяцы. З ліку членаў Савета будуць утвораны камісіі па напрамках дзейнасці.

Пакуль што гэта ўсё ўспрымаецца як дэкларацыя, як заява аб намерах. Але ж ініцыятыва стварэння такога Савета выходзіла ад саміх дзеячаў культуры. Прапанова (ці просьба) па "галаве" — таксама ад іх. І хоць рашэнні Савета будуць мець толькі рэкамендацыйны характар, ад яго ўсё-такі чакаюць многіх адчувальных захадаў. Сёлета прынята федэральная мэтавая праграма развіцця і захавання культуры і мастацтва Расійскай Федэрацыі на 1997 — 1999 гады. Яна аб'яўлена прэзідэнцкай. Барыс Ельцын не абяцае расійскай культуры залатыя горы, але цвёрда заяўляе аб сваім намеры дамагацца павышэння яе прэстыжу і ролі ў грамадстве.

Апошнія прэзідэнцкія ўказы і распараджэнні па пытаннях культуры сведчаць пра тое, што "працэс пайшоў".

Таму дзеячы культуры і мастацтва Расіі ад усёй душы жадаюць свайму прэзідэнту хутчэйшага выздараўлення.

**Іван КАРЭНДА**



**Тэатр-студыя кінаакцёра ў Мінску, 25 кастрычніка. Юбілейныя віншаванні — Віктару Тураву. Ад сяброў і калег, ад дзяржаўных асобаў. Урэшце — ад самога беларускага народа. Менавіта як "ад народа" ён і прымае высокую ўзнагароду дзяржавы — медаль імя Францыска Скарыны, што быў уручаны падчас юбілейнай вечарыны мэтру кіно.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



# ФРАНЦУЗСКАЯ ВЫСПА



*Пасол Францыі ў Беларусі пан К. Жаліф і дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі імя А.Пушкіна Н. Чуева.*

Нарэшце ў Мінску з'явілася франка-беларуская інфармацыйная зала. Цяпер усе жыхары нашай рэспублікі маюць магчымасць, наведаўшы бібліятэку імя Пушкіна, атрымаць самыя свежыя навіны аб "Краіне моды". Як запэўніў дарадца па культуры, навукы і супрацоўніцтве Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Франсуа Ларан, з гэтага часу на беларускіх абшарах можна будзе знайсці не толькі самую апошнюю інфармацыю аб розных падзеях у Францыі, але і апошнія навінкі літаратуры. Без сумнення, гэта істотны крок у культурных адносінах паміж нашымі краінамі.

Застаецца дадаць, што дырэктар залы — маладая прыгожая француженка Карын Жаліве. Яна, Франсуа Ларан і не менш прыгожая дырэктар бібліятэкі імя Пушкіна спадарыня Наталля Чуева з'яўляюцца галоўнымі ініцыятарамі стварэння гэтай цудоўнай французскай выспы.

**З.В.**

*Фота Генадзя Жынкова і Аркадзя Нікалаева, БелТА.*



*Дырэктарка франка-беларускай інфармацыйнай залы К. Жаліве дае інтэрв'ю...*

СІТУАЦЫЯ

# АГОНЬ, ШТО ВЫПРАМЕНЬВАЕ... ЦЕМРУ

***Падобна на тое, што мы сапраўды жывем у апошнія часы. Адна з жахлівых рэчаў, да якой нас прымушаюць прызвычаіцца, — апаганенне храмаў. Быццам нейкая сіла выпрабоўвае грамадства на трываласць і здольнасць да самазахавання ў самых неверагодных умовах — галеча большай часткі насельніцтва, палітычны вэрхал, паралізацыя дзейнасці афіцыйных культурных і навуковых установ, панаванне крыміналу ва ўсіх сферах жыцця... Калі чалавек не аднойчы сустракаецца з грэхам — ён яго перастае лічыць грэхам, грэх можа стаць нормай. Сатанінскія надпісы на храмах сталі прадвесцем фізічнай атакі цёмных сіл.***


Фота Генадзя Жынкова

Вы бачыце на гэтых фотаздымках знак нашага часу — спалены храм, Беларусь, цэнтр Еўропы, канец другога тысячагоддзя.

Факты яшчэ будуць удакладняцца, працягваецца следства. Але вось падрабязнасці, пра якія даведаўся карэспандэнт "Культуры" і калегі-журналісты па жахлівых "гарачых" слядах на час вёрсткі газеты: 19 кастрычніка, па словах старшыні царкоўнага савета Спаса-Праабражэнскай царквы горада Заслаўя Тамары Юзэфовіч, прыблізна ў 21.40 спрацавала ахоўная сігналізацыя. Прадстаўнікі ведамаснай аховы, агледзеўшы будынак звонку і не заўважыўшы нічога падазронага, з'ехалі. Калі б яны выканалі свой абавязак — выклікалі гаспадара будынка (айца ці старшыню царкоўнага сходу) для агляду царквы ў самой забудове — здарэння магло б не быць. Магчыма, ужо тады ў царкве пачынаўся пажар, бо каля 22 гадзін была выклікана пажарная ахова — будынак гарэў адкрытым полымем. Гэта ў тым выпадку, калі пацвердзіцца версія, што адбылося выпадковае самазапальванне ад электраправодкі. Па меркаванні супрацоўніка пажарнай аховы горада Заслаўя Алега Байдзюка, "падобна на тое, што было разбіта шкло і закінута бутэлька з гаручым рэчывам. Сведчанне таму тое, што было разбіта шкло і пачала гарэць вежа". Сухая драўляная лесвіца ўзялася адразу, цяга праз разбітае шкло — як у пячным ацяпленні. Агонь быў страшэнны — быццам яго спецыяльна падкачвалі. Прыбыўшыя пажарныя вымушаны былі змагацца з полымем на званіцы на вышыні 36 метраў, але перамагчы агонь можна было б толькі з верталёта. Літаральна за 15 хвілін сарваўся дах. Змаганне з агнём працягвалася ўсю ноч. Тэмпература была такая, што пашкоджаны званы. Тоўсты слой попелу і чарапіцы пакрыў падлогу. У выніку — у вежы храма знішчаны ўсе драўляныя канструкцыі, лесвіцы, падлога, пераходы, крапежныя балкі. Згарэлі хоры, дзверы, што вядуць на вінтавую лесвіцу, драўляныя шафы, дзе захоўвалася царкоўная літаратура, сурвэткі, абрусы, поўнасцю згарэла страпільная сістэма. У асноўным будынку пашкоджанні не такія моцныя — каменная падлога абараніла ад полымя алтарную частку, захаваўся іканастас, дзе закапціліся абразы, моцна закураны скляпенні.

Адначасова з пажарам на сцяне храма ўзніклі надпіс "Смерць хрысціянам" і сатанінскія анаграмы — перакулены праваслаўны крыж і зорка, намаляваная ў коле. Відавочная сувязь з сатанізмам, які ў сваіх праявах набліжаецца да тэрарызму.

Спаса-Праабражэнская царква абрана невыпадкова, бо, як сказана ў звароце да суайчыннікаў мітрапаліта Філарэта, менавіта адсюль тысячу гадоў таму ў землях Полацкага княства старажытнай Белай Русі пачало сваё распаўсюджанне праваслаўе. На гэтым месцы была пабудавана княская царква, дзе маліліся першыя беларускія хрысціяне — княгіня Рагнеда, і яе сын Ізяслаў, ад імя якога паходзіць назва горада.

Храм сімвалізуе сабой не толькі праваслаўе, але і хрысціянства ўвогуле. Пабудаваны напрыканцы XVI — пачатку XVII стагоддзя як рэфармацкі, у XVII стагоддзі ён стаў каталіцкім касцёлам святога Міхаіла Архангела, пасля — саборам дамініканскага кляштара, а ў XIX стагоддзі — праваслаўным храмам. У 70 — 80-х гадах нашага стагоддзя тут быў Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў. Таму замах на храм ёсць замахам на ўсе культурніцкія і рэлігійныя прасторы, якія прадстаўлялі гэтыя арганізацыі.

Аднак галоўная небяспека гэтай падзеі — кожнае злачынства выклікае абурэнне і пошук вінаватых. Яно можа быць спецыяльнай правакацыяй дзеля дасягнення далёкасяжных мэтаў. Відавочна, што падпал храма — дастатковая прычына для барацьбы з усімі падазронымі. Нагода, дзеля раскручвання буйнамаштабных палітычных акцый. Трэба падзяляць і сам сатанізм як з'яву. Да яго можна аднесці і афіцыйна зарэгістраваныя ва ўсім свеце секты, якія не парушаюць законаў грамадства і ў сваю аснову кладуць фактычны культ асобы і ствараюць дзеля яго сваё тэалагічнае і філасофскае забеспячэнне; гэта аўтаномныя групы без дакладнай тэалагічнай асновы, якія за вонкавым акультызмам хаваюць псіхапаталагічныя схільнасці; і проста суполкі моладзі, якіх вабяць знешнія атрыбуты сатанізму... Але важна разумець тое, што сапраўдны сатанізм ніколі сябе не называе, ён хаваецца за прыстойныя формулы непасрэдна ў душах людзей. Калі чалавек дасягае пікавага засяроджання на пэўнай тэалагічнай дактрыне, усё, што не звязана з ёй, ён пачынае ўспрымаць як няправільнае і ад Сатаны, і ў гэты момант сам робіцца яго прадстаўніком.

Падпал храма, які мае унікальную гісторыка-культурную каштоўнасць і асветлены набажэнствамі розных канфесій, — напад на ўсіх нас і ўдар, які мы павінны вытрымаць, не парушыўшы асноўныя запаветы — любіць Бога, бліжніх, ворагаў.

**Алесь ТУРОВІЧ**













ЖЫВАЯ ЛЕГЕНДА

# ЯК ПРАЙСЦІ ДА ПАКОЯ БАЛЕРЫНЫ?

***4 лістапада спаўняецца 90 гадоў народнай артыстцы Беларусі Аляксандры Нікалаевай. Мінскія старажылы, даўнія прыхільнікі харэаграфічнага мастацтва сцвярджаюць, што такой яркай, тэмпераментнай, шчодрай у сцэнічных пачуццях артысткі, якой паўставала ў сваіх ролях у даваеннае і пасляваенныя дзесяцігоддзі балерына Аляксандра Нікалаева, цяпер няма.***

***У чым быў сакрэт яе сапраўды трыумфальных выступленняў? У адной са сваіх кніг, прысвечаных беларускаму балетнаму тэатру, прафесар Юлія Чурко піша: “А.Нікалаева ўвасабляла на сцэне новы тып жанчыны рэвалюцыйнай эпохі. Пры ўсёй разнастайнасці яе роляў і шырыні акцёрскага дыяпазону (яна з аднолькавым поспехам танцавала і класічныя і характарныя партыі) у яе палітры пераважалі жыццёсцвярджальны пафас, гераічная паэтыка, бурная энергія. Яе магутны, адкрыты і радасны тэмперамент быццам гарачае і яркае полымя саграваў і асвятляў усё навокал...”***

***З Аляксандрай Васілеўнай мы размаўлялі пра тое, як у 20-я гады нашага стагоддзя ў Петраградзе пачынаўся яе творчы шлях, пра яе знакамітых педагогаў і не менш знакамітых аднакашнікаў. Гэта тэма рэдка закраналася ў інтэрв’ю з артысткай, у артыкулах пра яе творчасць.***



**— На пачатку 20-х гадоў вядомым мастацтвазнаўцам Акімам Валынскім была створана Школа рускага балета, прыватная навучальная ўстанова, дзе рыхтавалі будучых артыстаў балета.**

У Школе да мяне ставіліся вельмі добра, бо я была здольная вучаніца, вучылі бясплатна. Школа арганізавалася ў той час, калі балетныя трупы былых імператарскіх тэатраў значна зменшыліся. Многія артысты з’ехалі за мяжу (у тым ліку і амаль увесь старэйшы клас нашай Школы). За мяжой яны адкрывалі ўласныя студыі, школы і ўжо вучылі іншых. Напрыклад, знакамітая Вера Волкава, педагог сусветна вядомай Марго Фантэйн — таксама выхаванка Школы рускага балета. Сама Школа існавала да таго часу, пакуль у 1926 годзе не памёр А.Валынскі. Найбольш здольным выхаванцам прапанавалі трымаць конкурс на вячэрняе аддзяленне Ленінградскага харэаграфічнага вучылішча. На чале адборачнай камісіі быў Віктар Аляксандравіч Сямёнаў, вядучы класічны танцоўшчык Кіраўскага тэатра, які пачаў выступаць на яго сцэне яшчэ да рэвалюцыі. Пасля таго, як я выканала камбінацыі скачкоў, ён паставіў насупраць майго прозвішча два крыжы і прыняў! У самога Сямёнава быў цудоўны, вельмі лёгкі скачок. Ён узяў мяне да сябе ў клас, вучыў некаторы час.

Наогул адкрыццё вячэрняга аддзялення з’явілася своеасаблівым эксперыментам. Яно было адкрыта для здольных дзяцей і падлеткаў, якія не трапілі ў свой час у харэаграфічнае вучылішча. Кіраўнікі аддзялення вырашылі выхаваць з іх балерын і танцоўшчыкаў паскораным шляхам. І мы імкнуліся апраўдаць гэтыя спадзяванні. Ніколі не забуду такі эпізод. Разам з Вахтангам Чабукіяні (праз дзесяцігоддзе сусветна вядомым танцоўшчыкам, а тады яшчэ толькі вучнем. — **Т.М.**) мы рыхтавалі па-дэ-дэ да апошняй дзеі “Дон Кіхота”. Сямёнаў запрасіў знакамітага харэографа Фёдара Лапухова паглядзець на нас. Лапухоў стаяў ля дзвярэй рэпетыцыйнай залы, а калі наш нумар скончыўся, сказаў: “Гэтым артыстам шлях на вялікую сцэну адкрыты”.

Акрамя Вахтанга Чабукіяні на вячэрнім аддзяленні вучыўся Канстанцін Сяргееў, будучы партнёр Уланавай і мастацкі кіраўнік Кіраўскага балета; Сяргей Корань, які зробіцца знакамітым характарным танцоўшчыкам. Нашымі педагогамі, акрамя В.Сямёнава, былі Марыя Раманава, вядомы педагог і маці Г.Уланавай, Таццяна Вячэслава, Кацярына Гэйдэнрэйх, Іосіф Кшэсінскі, брат Мацільды Кшэсінскай, вядомы характарны танцоўшчык Аляксандр Шыраеў.

Марына Сямёнава была ў той час адной з вядучых артыстак трупы і адначасова выкладала ў малодшых класах. У дзень спектакля яна звычайна не прыходзіла раніцой на ўрокі, і таму Віктар Аляксандравіч Сямёнаў іншым разам пасылаў мяне яе замяніць.

У вучылішчы я выконвала галоўную партыю ў балеце “Пахіта”. Разам з Канстанцінам Сяргеевым танцавала балет “Чароўная флейта” — спектакль у дзвюх дзеях, на зборную музыку, у пастаноўцы А.Шыраева. Паказы адбываліся на сцэне вучэбнага тэатра. Я выконвала Лізу, Сяргееў — Луку. Вядучыя партыі ў гэтым балеце танцавалі ў свой час многія славутыя артысты, пазней ён уваходзіў у рэпертуар гастрольнай трупы Ганны Паўлавай. Дарэчы, я была першай партнёршай К.Сяргеева. Шкада, што ў кнігах пра артыста аб гэтым не згадваецца.

У часы нэпа ўзнікала шмат новых труп, адкрывалася мноства розных тэатраў. Тады гэта было лёгка. Адным з такіх тэатраў быў Троіцкі, бо размяшчаўся на вуліцы Троіцкай, 18. Яго дырэктарам з’яўляўся Аляксандр Міхайлавіч Фокін, брат славутага балетмайстра. Яшчэ вучаніцай я выступала ў Троіцкім тэатры, танцавала пераважна амураў і нават атрымлівала за гэта грошы.

Выхаванцы вучылішча праходзілі практыку ў Міхайлаўскім тэатры — існаваў такі ў Ленінградзе. Фактычна гэта была трупа “Малады балет Ленінграда”. Мяне нават прынялі ў штат. Бачыце на фотаздымку? Косця Сяргееў, побач я сяджу, побач Сяргей Корань, далей харэограф Васіль Вайнонен, Ніна Анісімава (пазней яна зрабілася выдатнай выканаўцай характарных танцаў). У рэпертуары нашай трупы былі балеты “Капелія”, “Чароўная флейта”. З імі мы ездзілі па прыгарадах Ленінграда.

Вельмі часта выступалі на эстрадзе ў знакамітым Летнім садзе. Тады ён называўся сад адпачынку. На эстраднай пляцоўцы па вечарах ішлі канцэрты, выступалі лепшыя артысты. Памятаю такіх выдатных майстроў эстраднага танца, як Ганна Рэдэль і Міхаіл Хрусталёў, Аляксандр Каверзін. Яны былі ў той час вельмі папулярныя.

У 1934 годзе творчы лёс балерыны непадзельна звязаны з Дзяржаўным тэатрам оперы і балета Беларусі. За сваю больш чым дваццаціпяцігадовую дзейнасць Аляксандра Нікалаева выканала вядучыя партыі ў многіх спектаклях.




Заўсёды поспех яе выступленняў быў забяспечаны выключнай сцэнічнай абаяльнасцю, яркім тэмпераментам, эмацыянальнасцю артысткі і, вядома ж, яе віртуозным танцам.

У класічным рэпертуары, у балетах П.Чайкоўскага найбольш блізкай да індывідуальнасці балерыны аказалася Адылія ў “Лебядзіным возеры”. Невыпадкова, што менавіта ў гэтай партыі намалявала артыстку вядомая беларуская мастачка Валерыя Жолтак. Разнастайную гаму пачуццяў — душэўны боль, адзіноту, адчай перадавала Нікалаева ў востра драматычнай партыі Зарэмы (балет “Бахчысарайскі фантан” Б.Астаф’ева быў пастаўлены ў Мінску знакамітым Касьянам Галяйзоўскім).

Адным з найбольш цікавых творчых набыткаў артысткі быў вобраз Кітры ў “Дон Кіхоце” Л.Мінкуса. Яе гераіня прываблівала жыццярадаснасцю, упэўненасцю і пераможным адчуваннем сваёй маладосці. “Капелія” Л.Дэліба, “Марная перасцярога” П.Гертэля, “Ар-



лекінада” Р.Дрыго — у гэтых спектаклях выяўляўся камедыйны талент артысткі, арганічна ўласцівае ёй пачуццё гумару, здольнасць выклікаць у гледача ўсмешку, ствараць прыўзняты настрой.

Асабліва вылучаюцца ў творчай біяграфіі балерыны два вобразы: Зоська ў “Салаўі” М.Крошнера і Надзейка ў “Князь-возеры” В.Залатарова. Нікалаева з’яўлялася першай выканальніцай гэтых партый у беларускіх нацыянальных балетах.

Спектакль “Салавей”, пастаўлены ў 1939 годзе знакамітым танцоўшчыкам і харэографам Аляксеем Ермалаевым, быў значным дасягненнем беларускага тэатра. Яго стваральнікі здолелі арганічна спалучыць ў харэаграфічнай тканіне спектакля танец класічны і народны, і тым самым вырашыць галоўную праблему, якая паўстае перад стваральнікамі нацыянальных балетаў.

**— Выкананнем цэнтральных жаночых партый у балетах “Салавей” на музыку М.Крошнера і “Князь-возера” на музыку В.Залатарова Вы назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю айчыннага харэаграфічнага мастацтва. Вы — гарадскі чалавек, раслі і выхоўваліся на асфальце. Ці лёгка было вам перадаць пачуцці і ўнутраны свет Зоські, Надзейкі — вясковых дзяўчат?**

— Я шчаслівая, што кожнае лета бацькі адпраўлялі нас, дзяцей, у вёску. Гэта такая раскоша, такая асалода! Вёска Клабукова знаходзілася на Цэнтральнай Волзе, недалёка ад Калугі. Як сёння памятаю: вясковыя дзяўчаты збіраюцца каля млына, водзяць карагоды, спяваюць... Песні, якія яны выконвалі, памятаю да гэтага часу... Памятаю іх рухі, пластыку, паходку. Уражанні адкладваюцца паступова, загадзя, і ты нават не ведаеш, спатрэбіцца табе гэта або не.

Выйдзеш за вёску — палі, неабдымныя, духмяныя... Волга... Такая асалода! Вечарам мы, дзеці, сустракалі на ўскраіне вёскі дарослых цётачак і дзядзечак, якія вярталіся дахаты з кірмашу. Дзеці адчынялі вароты, былі такія перад вёскай, —нас за гэта цукеркамі і частавалі. Адкрываем наступнаму —зноў цукеркі.

Вобраз складваецца з мноства папярэдніх уражанняў. Калі я працавала над Зоськай, над Надзейкай, дык неаднойчы ўспамінала, як дзяўчаты хадзілі, як прыхарошваліся, збіраліся, шапталіся, як з хлопцамі размаўлялі. І Зоська, і Надзейка былі для мяне вельмі блізкія.

Калі Аляксей Ермалаеў у 1939 годзе паставіў першую дзею “Салаўя”, прагон прайшоў пад агульныя апладысменты. Усе былі ў захапленні, бо разумелі, што гэта сапраўднае беларускае мастацтва.

Прэм’ерныя паказы новага балета ішлі на асаблівым уздыме. Усе пачуцці маёй гераіні былі для мяне натуральнымі, праўдзівымі, літаральна вылівaліся з душы. Калі ў 1940 годзе спектакль павезлі ў Маскву на Дэкаду беларускага мастацтва, “Салавей” атрымаў поўнае і бясспрэчнае прызнанне. Складаны для выканаўцаў быў спектакль, таленавіты, непаўторны. У гісторыі такія творы з’яўляюцца аднойчы. І ўсё! Ні пастаноўшчыка такога больш не знойдзеш, ні такіх выканаўцаў...

**— На сценах пакоя я бачу некаторыя вашы сцэнічныя касцюмы, пераважна для характарных танцаў. Дый фотаздымкі ў кнігах, альбомах адлюстроўваюць Ваша вельмі яркае сцэнічнае аблічча. Вашы сцэнічныя касцюмы былі зроблены майстрыхамі з камбіната тэатра ці Вы іх самі шылі, аздаблялі?**

— Касцюмы сапраўды рабілі на камбінаце, у тэатры, але я вельмі шмат траціла грошай на аздабленні. На гэта не шкадавала. Шмат чытала ў кнігах успамінаў пра даўнейшых балерын —напрыклад, Вірджынію Цукі, славутую італьянскую віртуозку. Мяне цікавілі таксама інтэрпрэтацыя характарных танцаў, бо я выконвала іх шмат. Як танцаваць кракавяк? Якім павінен быць галаўны ўбор для гэтага танца? Як яго трэба апранаць? Якія рысы нацыянальнага характару акцэнтаваць? Гэта ўсё вельмі цікава. Сама расшывала бісерам некаторыя свае касцюмы, напрыклад, для “Іспанскага капрычыо”.

**— Пытанне пра балетны абутак — вельмі істотнае для артысткі. Бо ад яго залежыць настрой, самаадчуванне на сцэне. Вы танцавалі ў пуантах зробленых тут, у Мінску, або заказвалі недзе?**

— Не, не ў мінскіх. Тады нашы майстры не былі такія дасканалыя. Мне прывозілі пуанты з Масквы, Ленінграда, я заказвала ў майстэрнях Вялікага тэатра. У мяне і зараз ёсць туфлікі маскоўскія.

**— А колькі пар абутку трэба артыстцы на вялікі спектакль у трох-чатырох дзеях — адна? дзве?**

— Мая Плісецкая піша ў сваіх успамінах, што ёй хапае адной пары пуантаў на Лебедзя. (Маецца на ўвазе “Лебядзінае возера”. — **Т.М.**) Гэта няпраўда! Для першай варыяцыі Кітры ў “Дон Кіхоце”, напрыклад, патрэбныя мяккія туфлі. У цвёрдых не выйдзеш, бо адразу зваліўся з пуантаў. У такім выпадку лепш разношаны балетны абутак. А на па-дэ-дэ абуваеш ужо пару крапчэйшую. Часам я мяняла — гэтыя туфлі на скачкі, гэтыя — на адажыо...

Яшчэ шмат цікавага расказала мне балерына — таго, што мае неацэнную гістарычную і мастацтвазнаўчую каштоўнасць, што цікава маладым артыстам, балетным крытыкам, аматарам харэаграфіі. Але скончыць мне хацелася б на зусім не мажорнай юбілейнай ноце.

Жывая легенда беларускага балета займае адзін з пакояў кватэры ў доме, што знаходзіцца на рагу вуліцы Леніна і Маркса, там, дзе шмат мемарыяльных дошак. Дык вось у гэтай кватэры домакіраўніцтва ўжо другі год запар робіць капітальны рамонт. Думаю, не трэба быць вялікім знаўцам харэаграфічнага мастацтва, каб зразумець што гэта такое. Суцэльны беспарадак, перасунутая мэбля, жыццё як на вакзале, на чамаданах... Два гады рамонту... Для кожнага чалавека — гэта крыніца кепскага настрою і прыгнечанасці, а для немаладога — тым больш. Падчас рамонту памянялі трубы і ацяпляльныя батарэі, але забыліся іх пафарбаваць (так і стаяць — чорныя) і замазаць адбітыя дзіркі ў падлозе. Столь на кухні і ў ванне цячэ. Пакой, дзе павінны тынкаваць столь, даўно стаіць пусты і чакае рамонтную брыгаду.

Вокны пакоя народнай артысткі і лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР выходзяць на вуліцу Леніна. Насупраць літаральна зззяюць шыкоўныя і дагледжаная асабнякі замежных пасольстваў. Цікава, што было б, калі б замежныя журналісты здагадаліся зазірнуць да народнай артысткі і паглядзець, у якіх умовах жыве былая зорка балета, якая ў пераможным маі 1945 года танцавала вальс з Георгіем Жукавым, якой горача апладзіравалі першыя людзі дзяржавы — прэм’еры, міністры, дыпламаты і простыя, звычайныя людзі, улюбёныя ў балет?

Які б гэта быў гучны скандал, пасля якога ва ўладаў, напэўна, знайшліся б грошы скончыць распачаты рамонт.

Напэўна, у сувязі з юбілеем Аляксандру Васілеўну ўзнагародзяць граматай, будуць уручаць юбілейныя адрасы. Вось толькі як прайсці да пакоя юбіляршы?

Краіна спаўна выкарыстала неўтаймоўную энергію такіх людзей, малады запал, талент. Выкарыстала... і забылася. Сумна, прыкра і горка на гэта глядзець. На гэтым юбілейны артыкул дазвольце закончыць.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

ГАСЦЯВОЕ КРЭСЛА

***У маёй душы і па сёння жыве светлае ўражанне ад першай сустрэчы з Алесяй. Яна тады ўпершыню выконвала цяпер ужо знакамітую "Жаўраначку". Памятаеце: "Паслухайце, паслухайце..." і зала слухала, слухала, затаіўшы дыханне. Маладзенькая спявачка, зусім дзяўчо, кранала прысутных сваёй ранішняй чысцінёй і шчырасцю. Мяне тады ўразілі не столькі голас і маладосць, колькі супадзенне вобраза спявачкі з тым, пра што і як яна спявае. "Божа мой, дык ты ж сама і ёсць тая "жаваронaчка", — радасна падумала я.***
***Святло ад тае сустрэчы і сёння са мною. Яно нічым не замутнёнае. Абаяльны талент Алесі-Жаўраначкі набывае новую вышыню...***

# ЖАЎРАНАЧКА

**— Алеся, кім Вы марылі стаць у дзяцінстве?**

— У мяне было многа мараў. Спачатку я марыла пра тое, каб стаць настаўніцай, потым, калі падрасла, хацела быць урачом і, нават старанна вывучала табліцу Мендзялеева, але, у рэшце рэшт, стала спявачкай...




**— Любімыя песні ў Вашым рэпертуары?**

— Самыя першыя песні, якія я выканала ў ансамблі "Сябры", і ёсць самыя любімыя. Гэта песні на вершы нашага выдатнага паэта Ніла Гілевіча "Бацькоўскі куток" на музыку Ігара Лучанка і "Жаўраначка" на музыку Эдуарда Ханка. Менавіта "Жаўраначка" стала маёй своеасаблівай візітнай карткай. Калі я прыязджаю на гастролі, пра мяне так і гавораць "Жаўраначка прыехала".

**— Слухаючы Вас, я падумала, што Вы павінны любіць паэзію, бо "паэзія — музыка слоў". Вытанчана, пранікнёна гучаць у Вашым выкананні радкі беларускіх паэтаў. Каго з паэтаў Вы чытаеце, з чыімі тэкстамі працаваць найцікавей?**

— Мне падабаюцца вершы нашых паэтаў-песеннікаў, Генадзя Бураўкіна, вельмі люблю паэзію нашага народнага паэта Ніла Гілевіча. Прыгадваю час, калі вучылася ў школе. Тады я і думаць не магла, што я буду выконваць песні на словы такога знакамітага, такога вядомага чалавека. Гэта сапраўдны падарунак лёсу. А наогул праца над песняй для мяне заўсёды пачынаецца з работы над тэкстам. Калі я не зразумею, калі не адчую, не пранікнуся словамі, то песня не атрымаецца.

**— Ці любіце Вы класічную музыку, ці часта ўзнікае жаданне паслухаць яе?**

— Класічную музыку трэба разумець. У мяне з'яўляецца жаданне паслухаць Моцарта, Чайкоўскага адпаведна настрою. Калі настрой прыгнечаны, будзённы, то такая музыка ўзвышае, узнімае над будзённасцю.

**— Наша моладзь любіць і захапляецца рок-музыкай. Ваша стаўленне да яе?**

— У нас ёсць вельмі цікавыя рок-гурты. Цікавы па-свойму гурт "Крама", своеасаблівы стыль выканання мае "Палац". Думаю, што калі б былі наладжаны нейкія спаборніцтвы, нават міжнародныя, нашы рок-гурты занялі б там ці не першае месца.

**— Не так даўно на нашых тэлеэкранах з'явіўся кліп, які падабаецца не толькі моладзі, а і людзям розных узростаў. Раскажыце пра Ваша супрацоўніцтва з групай "На-На".**

— Я пазнаёмілася з імі яшчэ на першым фестывалі "Славянскі базар". Гэта таленавітыя, вясёлыя і сімпатычныя хлопцы, у нас адразу наладзіліся з імі шчырыя сяброўскія адносіны. Пазней з'явілася задума стварыць разам кліп, які б увасабляў сяброўства паміж нашымі народамі. Алесь Бадак напісаў словы, Мікалай Сацура музыку, мы паказалі гэта Бары Алібасаву — і ўрэшце атрымаўся кліп. Дарэчы, я атрымліваю шмат лістоў пасля паказу гэтага кліпа. Зацікаўленыя пытаюцца, ці не збіраюся я замуж за "нанайца".

**— Няўжо гледачы так літаральна ўспрымаюць песню?**

— Так, і нават, просяць канкрэтызаваць за каторага з іх, з "нанайцаў". Стараюся адказваць і на такія лісты: не, не збіраюся, яшчэ рана. Увогуле ж, гэта прыемна, што мая работа цікавіць людзей, знаходзіць у іх сэрцах водгук. Нават такія камічныя сітуацыі гавораць пра тое, што праца недарэмная.

**— У чым, на Ваш погляд, прызначэнне жанчыны?**

— Я мару пра тое, што ў будучым у маім доме будзе цёпла, утульна, што буду мець дзяцей, якія будуць любіць і мяне, і іх бацьку. Але ў той жа час разумею, што жанчына не павінна абмяжоўваць сябе толькі сям'ёй, таму і вучуся ў інстытуце культуры на аддзяленні рэжысуры народных святаў. Мая праца дапамагае вучобе, вучоба — працы, і гэта добра. Калі ж мая кар'ера спявачкі будзе перашкаджаць увасабленню маёй мары пра дамашні агеньчык, пра цяпло і ўтульнасць у маім доме, я ўсё ж развітаюся з песняй і выберу сям'ю.

**— Алеся, а што б вы хацелі пажадаць нашым суайчыннікам?**

— Мы жывем у такі цяжкі час. Жыццё наша ўяўляе сабой напластаванне цяжкасцей — маральных, эканамічных, бытавых. Але не трэба нікуды ехаць, не трэба кідаць нашу любімую краіну — Беларусь. Трэба многа і ўпарта працаваць дзеля яе росквіту і ўсталявання яе стабільнасці. І калі мы ўсе разам возьмемся за гэта, то, урэшце, я веру, прыйдуць лепшыя часы!

...Што ж, аптымізм Алесі-Жаўраначкі захапляе, усяляе надзею нават у тых, хто згубіў яе...

**Гутарыла Алена РЫГОРАВА**

# ГУЛЬНЯ ЦЕЛА Ў ПРАЎДУ ПЕСНІ, АБО ПАРАДОКСЫ "ПА"

Напрыканцы XX стагоддзя праблема руху для урбанізаванага грамадства становіцца надзвычай актуальнай у самых розных вымярэннях: ад метафізічнага да біялагічнага. І гэта натуральна, бо чым болей напаўняецца механізаваным рухам прастора існавання чалавека, тым больш статычным робіцца ён сам. Адсюль (як процівага канчатковай знерухомленасці) увага да спорту і самых падчасневерагодных фізічных практыкаванняў, якую немагчыма сабе ўявіць у іншыя часы.

Настальгія па чалавеку, які рухаецца, — выразная прыкмета нашай пары. Але нашая пара мае яшчэ адну выразную прыкмету: прагу чалавека, які рухаецца прыгожа (прыгожа як ва ўласна руху, так і ў разнастайных эстэтычна зладжаных праявах яго актывізацыі ды актуалізацыі), звязаную з агульнай сітуацыяй эстэтызацыі пабытовай прасторы. Усё непрыгожае (ад цукерачнай агорткі да няўклюднага трактара) неўпрыкмет выдаляецца з досведу чалавека...

Праблема руху, праблема чалавека, які рухаецца прыгожа, знаходзіць сябе ў рэчышчы гэтай агульнай тэндэнцыі, якую далей я хацеў бы спрацыраваць на досыць канкрэтную сіутацыю і сфармуляваць у выглядзе запытання: ці гатовыя мы (гэта значыць нашыя сацыяльныя інстытуты, у першую чаргу ўстановы культуры і адукацыі) да развязання гэтай праблемы?..

Бадай, няма нічога дзіўнага, што каб прааналізаваць стан справаў на канкрэтным прыкладзе, мы звернемся да рэальнай практыкі Беларускага універсітэта культуры. А вось тое, што з усіх шматлікіх кафедраў мы спынім увагу на кафедры "Беларуская народна-песенная творчасць", пэўна выкліча непаразуменне. Мы ж не музыку, не спевы пазначылі праблемай... Але не станем спяшацца з высновамі...

Пятнаццаць гадоў таму загадчык кафедры, прафесар Станіслаў Іосіфавіч Дробыш стварыў ансамбль "Валачобнікі" (спадзяюся, што ў свой час на старонках нашай газеты з'явіцца асобны матэрыял, прысвечаны гэтаму цікаваму калектыву). У адрозненне ад шматлікіх "канцэртных" ансамбляў, галоўная ідэя і асноўнае прызначэнне "Валачобнікаў" — быць творчай лабараторыяй кафедры. Будучы спецыяліст, кіраўнік калектыву, а пакуль студэнт, праз непасрэдны ўдзел у ансамблі на ўласным вопыце пазнае ўсю "механіку" дзейнасці творчага гурта.

Не спыняючыся на гісторыі "Валачобнікаў", дасягненнях і праблемах, адзначым: у нейкі момант кіраўніку ансамбля стала зразумелым, што фальклорная песня нед'емная ад музыкі і танца, што народная творчасць сінкрэтычная ў сваёй сутнасці (што спяваю, тое і паказваю). Адным словам, народная песня — гэта не толькі "голас", гэта гульня цела ў праўду песні.

Адсюль і вынікла новая задача: вучыць студэнтаў не адно спевам (ды арганізацыі спеваў), а яшчэ музыцы і харэаграфіі. Тады і з'явілася ў ансамблі яго галоўны балетмайстар Алена Рыбчынская (адначасна і старэйшы выкладчык спецкурса "Танец у народным хоры"). Менавіта з Аленай Рыбчынскай мы і пачалі "раскручваць" для гэтай публікацыі праблему чалавека, прыгожага ў руху. Хаця тут я мушу шчыра заўважыць, што для мяне гэтая праблема ўяўляе з сябе ўсяго тэарэтычную, абстрактную цікаўнасць, а вось для Алены Рыбчынскай яна абсалютна рэальная ды зусім канкрэтная, — і пачынаецца з набору студэнтаў, гэта значыць з турботаў: дзе знайсці маладых людзей, якія былі б хоць трохі "харэаграфічна" падрыхтаванымі?

Рэч у тым, што даінстытуцкая агульнаадукацыйная сістэма не мае ў сваёй праграме харэаграфічных дысцыплін. І таму ва універсітэт прыходзяць людзі (як гэта ні дзіўна) без сярэдняй "харэаграфічнай" адукацыі.

У адрозненне ад музыкі і спеваў, якія маюць свае школкі і вучэльні, харэаграфія пазбаўленая падобных навучальных установаў. Праўда, адна адзіная на рэспубліку харэаграфічная вучэльня ёсць, але яна разлічаная на падрыхтоўку артыстаў балета для прафесійнай сцэны. Пэўна, тут нехта яшчэ згадае культасветвучэльні, аднак, гэта не зусім карэктны прыклад — там рыхтуюць кіраўнікоў танцавальных ансамбляў з хлопцаў і дзяўчат, якія самі як след не навучыліся танцаваць.

Цікавы атрымліваецца сюжэт: ВНУ — ёсць, (прынамсі, кафедры ў ВНУ), а пачатковай і сярэдняй адукацыі пад яго — няма. Бадай нават не цікавы, а — парадаксальны.

**— І якое ж тут выйсце? — заінтрыгавана пытаюся ў спадарыні Алены Рыбчынскай.**

— Самім рыхтаваць сабе студэнтаў, — адказвае яна. — Ад самага пачатку: ад дзіцячага садка, ад пачатковай школкі. Прынамсі, я так і зрабіла. Пайшла ў 190-ю сярэднюю школу (з эстэтычным "ухілам") і стварыла пры ёй "Недзяржаўную харэаграфічную школу". Міне час і нехта з маіх навучэнцаў стане маім студэнтам, які, нарэшце, прыйдзе ў ВНУ з паўнавартаснай харэаграфічнай адукацыяй. А ўвогуле я мару, каб у рэспубліцы была створана сетка харэаграфічных школ, падобная да сеткі школ музычных.

За сваё, ужо і не такое кароткае жыццё, я даволі набачыўся апантаных нейкай ідэяй людзей. Усе яны маюць адну характэрную рысу: ім здаецца, што той імпэт, з якім яны робяць сваю справу, з'ява не унікальная, адзінкавая, а, так бы мовіць, шматкроць тыражаваная і трэба адно нешта зварухнуць у грамадстве, каб за апантанымі адзінкамі — і з тым жа імпэтам — пайшлі сціжмы і сціжмы наступнікаў... Таму я асцярожна пытаюся:

**— Можа каб як дзяржаву падахвоціць на гэтую справу? Бо прыватным чынам яе цяжка зладзіць. Надта ж яна няпростая.**

— Мы спазніліся з вырашэннем праблем харэаграфіі на дзяржаўным узроўні. Сёння дзяржава яе ўжо не падыме. Сёння гэтую праблему можна вырашыць толькі прыватным шляхам. Хаця, безумоўна, без дзяржаўнай падтрымкі тут не абысціся. Найперш трэба было б увесці льготныя падаткі (ці ўвогуле скасаваць іх на нейкі час) для прыватных харэаграфічных школ.

**— Спадарыня Алена, але ж я пакуль так і не зразумеў з нашай гаворкі, чаму Вы не пайшлі "рыхтаваць" сабе будучых студэнтаў калі не ў звычайную школу, то хаця б у школу з эстэтычным ухілам, а стварылі сваю?..**

— Бачыце, агульнаадукацыйная школа, нават з пэўным ухілам, навязвае агульны падыход да ўсіх вучняў. Там усе павінныя авалодаць нейкім мінімумам, незалежна ад схільнасцяў, магчымасцяў і ўласных запатрабаванняў. Да таго ж і колькасць гадзін, адведзеных тут на харэаграфію, зусім недастатковая, каб хоць чаму навучыць тых, хто гэтага сапраўды прагне. Хаця ў ідэале я не выключаю, што эстэтычна зарыентаваныя школы маглі б стацца базай для харэаграфічнага выхавання. Але, на жаль, пакуль у гэтых школах пераважна працуюць былыя артысткі балета, былыя спартсменкі — хто заўгодна, толькі не педагогі-харэографы.

**— Дарэчы, як Вы ставіцеся да праграмы, па якой "выкладаецца" харэаграфія ў агульнаадукацыйных установах?**

— Ніяк не стаўлюся. Бо ніякай праграмы няма. Прадмет ёсць, ужо колькі гадоў існуе прадмет, а распрацаванай належным чынам праграмы няма. Гэта яшчэ адзін парадокс "харэаграфічнай сітуацыі" ў нашай краіне. Уласна я карыстаюся праграмай харэаграфічнай вучэльні. Праўда, яна ад пачатку скіраваная на падрыхтоўку прафесіяналаў, і таму яе даводзіцца ў значнай ступені карэктаваць, паколькі задача маёй школы — даць харэаграфічную адукацыю, так бы мовіць, для задавальнення ўласных эстэтычных патрэбаў маіх вучняў. А ці стане потым харэаграфія для кагосьці прафесіяй — гэта справа ўласнага выбару... Да таго ж я знаёмая з праграмамі прыватных харэаграфічных школ Фінляндыі, Балгарыі, Германіі, дзе працавала як артыстка балета, — гэта карысны досвед...

**— Апошняе, але бадай самае няпростае пытанне. Прыватная школа — гэта ўласныя грошы бацькоў. Час сёння на грошы бедны. Патрэбныя (хай сабе і не надта вялікія) грошы маюць далёка не ўсе бацькі. Адсюль цэлы комплекс праблемаў: сацыяльных, этычных, псіхалагічных. Але мы пакінем іх абок нашай гаворкі, бо найперш мяне цікавіць наступнае: ці не ёсць фінансавая нішчымніца грамадства рэальнай пагрозай для Вашай ідэі стварэння сістэмы прыватных харэаграфічных школ (як і непасрэдна для Вашай школы)?**

— Сапраўды, тут столькі пытанняў і праблемаў, што для іх высвятлення спатрэбілася б асобная размова. Але калі коратка, то праблему стасункаў паміж прыватнай харэаграфічнай адукацыяй і дзяржаўнай я б пазначыла наступным чынам. Прыватная адукацыя — для ўсіх, хто жадае яе атрымаць і мае магчымасць матэрыяльна забяспечыць гэтае жаданне, дзяржаўная — для сапраўды таленавітых, для тых, каго дзяржава абавязана падтрымаць матэрыяльна, як агульнанацыянальную каштоўнасць... А што да небяспекі збяднення грамадства, то гэта, безумоўна, сур'ёзная перашкода, але пакуль патрэба ў харэаграфічным навучанні настолькі вялікая, што ў нас не хапае сапраўдных прафесіяналаў, каб яе цалкам забяспечыць. На жаль, гэтай сітуацыяй карыстаюцца не зусім добрасумленныя ці прафесійна малападрыхтаваныя людзі...

**P.S. Я зарана прыйшоў на сустрэчу з Аленай Рыбчынскай і доўга стаяў пад дзвярыма харэаграфічнай залы ў 190-й школе. Дзверы былі шчыльна зачыненымі, але і праз гэтую зачыненасць школьны калідор поўніўся рознымі гукамі той напружанай працы, што дзеялася там, у зале... Потым дзверы расчыніліся, і я пабачыў іх усіх. Яны былі аднолькава стомленыя працай: і харэограф, і яе вучні. Аднолькава стомленыя, але, як мне падалося, і аднолькава задаволеныя...**

**Васіль КАРДАШ**

АРХІЎ

# АДЗІН ЛЁС

## КАПЛАН

*За всё на евреев найдется судья.*
*За живость. За ум. За сутулость.*
*За то, что еврейка стреляла в вождя.*
*За то, что она промахнулась.*

*Ігар Губерман. "Гарики на каждый день".*


Фаіна Каплан

Губерман памыліўся. Фаіна Яфімаўна Каплан н і к о л і не страляла ў Леніна. Савецкая гісторыя нарадзіла мноства міфаў. Заснаваны яны былі на рэальных фактах, якія абрасталі неверагоднымі падрабязнасцямі, ад якіх ледзянела сэрца, але мелі заўсёды адну і тую ж мэту — апраўдаць крывавую бойню, пачатак якой паклала Кастрычніцкая рэвалюцыя, і любым чынам зняважыць і зацерці супраціўнікаў. "Казкі найноўшай гісторыі", на жаль, жывуць і сёння. Гэта зразумела: многім людзям, асабліва старэйшага пакалення, цяжка прымірыцца з тым, што "ленінская гвардыя" імкнулася да захопу ўлады зусім не дзеля шчасця чалавечага; што шматлікія ахвяры не набліжалі "светлай будучыні", а прыводзілі народ да братазабойчае вайны; што законы, прыдуманыя правадырамі, не забяспечвалі правы "ўсіх і кожнага", а асуджалі мільёны людзей на бяспраўнае існаванне і масавыя рэпрэсіі.

З падачы старых бальшавікоў нарадзілася казка пра тое, быццам у пачатку рэвалюцыі Леніна забілі і замянілі двайнікам, які і здзяйсняў крывавую гісторыю. Казалі таксама пра гуманнасць камуніста № 1 і прыводзілі мноства фантастычных прыкладаў. Шараговым камуністам вельмі хацелася верыць у чалавечнасць любімага правадыра, і таму неймаверна доўга жыла сярод іх легенда пра тое, нібыта Ленін, паважаючы палітычныя перакананні сваіх ворагаў, загадаў памілаваць Фаіну Каплан.

Сёння я хацеў бы падрабязней распавесці пра тую далёкую гісторыю — і таму, што яна з'яўляецца яскравым прыкладам народных міфаў, і таму, што і зараз у ёй шмат загадкавага і незразумелага. Загадзя хачу папярэдзіць чытачоў: неадпаведнасць паміж тым, што вядома ўсім са школьнай лаўкі, і тым, пра што я цяпер пішу, звязана з існаваннем дзвюх гісторый былой савецкай краіны. Афіцыйная гісторыя знайшла сваё адлюстраванне ў падручніках і шматлікіх выданнях, разлічаных на масавага чытача. Сапраўдная ж гісторыя, заснаваная на дакументах, заўсёды была схаваная за сямю пячаткамі ў спецсховах і даступная толькі вузкаму колу асоб, якія мелі запаветную форму допуску № 1.

У жніўні 1918 года Цэнтральны камітэт партыі правых эсэраў прыняў рашэнне здзейсніць замах на У.І.Леніна. Цікава, што пры абмеркаванні гэтага рашэння адсутнічалі словы "забойства", "ліквідацыя", "адстараненне". На мэце тэрарысты мелі не смерць бальшавіцкага лідэра, а жаданне даказаць свету, што ёсць рэальная палітычная сіла — правыя эсэры і з гэтым неабходна лічыцца. Існуе нават меркаванне, што з самага пачатку было рашэнне толькі параніць Леніна, але ні ў якім разе не забіваць. І для такой версіі даволі шмат падстаў.

Была створана група, якой даручылі здзейсніць замах. Кіраваў ёю Г.Сямёнаў. У групу ўваходзілі вядомыя тэрарысты: Л.Канаплёва, Ф.Каплан, К.Усаў, Ф.Фёдараў-Казлоў. Неўзабаве Усаў і Фёдараў-Казлоў выйшлі з групы; прычына невядомая, але афіцыйныя гісторыкі сцвярджалі, нібыта гэтыя людзі зразумелі, што "праўда на баку бальшавікоў". Паводле афіцыйнай версіі, Фаіне Каплан адводзілася роля галоўнага выканаўцы замаху, а Канаплёва здабывала атруту курарэ, якой быццам бы былі абмазаныя надрэзаныя кулі.

**ТОЕ, ШТО КУЛІ**, выпушчаныя ў Леніна, не былі атручаныя, стала вядома адразу ж пасля таго, як іх дасталі. У іншым выпадку Леніна ўжо нічога б не выратавала. Дзеля чаго спатрэбілася выдумваць атручаныя кулі, ды яшчэ ядам курарэ, ад якога смерць наступае імгненна, — зразумела: каб паказаць усім "звярыны выскал" ворагаў бальшавікоў.

Фаіна Яфімаўна Каплан ніяк не магла быць забойцай Леніна па простай прычыне: да 1915 года, пакуль знаходзілася ў ссылцы, яна практычна аслепла — бачыла адно толькі сілуэты людзей, не распазнаючы твараў. Без чужой дапамогі не магла ісці па вуліцы. Аб выкарыстанні Каплан у якасці тэрысткі не магло быць і гаворкі. Людзі, што аддалі загад страляць у Леніна, —незалежна ад таго, якія мэты пры гэтым ставіліся, — не маглі разлічваць на шанц: патрапіць — не патрапіць. Таму на ролю выканаўцы была абсалютна правільна абраная Лідзія Васілеўна Канаплёва — незвычайна халаднакроўны чалавек і вельмі спрытны стралок.

30 жніўня 1918 года да завода Міхельсона яны пайшлі ўтрох: Сямёнаў, Канаплёва, Каплан. Сямёнаў, назіраючы за тым, што адбываецца, знаходзіўся крыху далей. Канаплёва і Каплан, змяшаўшыся з натоўпам, сталі з розных бакоў набліжацца да Леніна. Пасля стрэлаў Канаплёвай, трымаючыся загадзя складзенага плана, Каплан пабегла, адцягваючы ўвагу рабочых на сябе. Зразумела, яе адразу ж схапілі.

У сумачцы Фаіны Яфімаўны быў знойдзены браўнінг. У першы ж дзень экспертыза паказала, што стрэлы былі зробленыя з іншай зброі. Шматгадзінныя допыты нічога не далі. Каплан істэрычна крычала, што страляла ў Леніна яна, што хаўруснікаў у яе не было. Яна так нікога і не назвала. У бальшавікоў было мала часу на дэталёвае расследаванне, і праз тыдзень пасля замаху Фаіна Яфімаўна Каплан была расстраляна. Расстраляў яе камендант Крамля Мальцаў, а праз сорак гадоў напісаў у сваіх мемуарах пра тое, як гэта адбывалася.

Перафразіруючы вядомы выраз, можна сказаць: калі б не было замаху — яго б варта было выдумаць. У паплечнікаў Леніна рукі цяпер былі развязаныя: пасля стрэлаў у правадыра чырвоны тэрор разгарнуўся з нечуваным дагэтуль размахам. Правым эсэрам фактычна была аб'яўлена вайна "да пераможнага канца", якая завяршылася ў 1922 годзе поўным разгромам ЦК эсэраў і гучным судовым працэсам. Ён адбываўся з 8 ліпеня па 7 жніўня 1922 г. і ставіў на мэце даказаць усяму "прагрэсіўнаму чалавецтву", што партыя правых эсэраў не мае права на існаванне. Пятнаццаць чалавек былі асуджаныя да вышэйшай меры пакарання — сярод іх Л.Канаплёва і Г.Сямёнаў, а астатнія — да розных тэрмінаў зняволення.

У апошні момант пакаранне ўсім асуджаным было заменена на лагер. Гэтым бальшавікі "яшчэ раз" прадэманстравалі свету свой гуманізм. Але пераследы "іншадумцаў" на гэтым не закончыліся, і да 1937 года ўсе правыя эсэры, якія так і не выйшлі з турмаў і лагераў, былі знішчаныя. У тым жа 1937 годзе расстраляна і Лідзія Васілеўна Канаплёва.

**ШМАТ НЯВЫСВЕТЛЕНАГА** ў гэтай гісторыі. Дзеля чаго правым эсэрам спатрэбіўся замах на Леніна, які даваў больш козыраў бальшавікам, чымсьці самім эсэрам? Канаплёва, як я ўжо казаў, была выдатнейшым стралком і з тае адлегласці, з якой быў зроблены стрэл, яна не магла прамахнуцца. Значыць, сапраўды было загадана толькі п а р а н і ц ь Леніна. Чаму менавіта Каплан — паўсляпая жанчына, якая апошні раз трымала зброю ў руках у 1906 годзе, была абраная на ролю "забойцы Леніна" і асуджаная тым самым на пакутніцкую смерць? Ёсць звесткі, што Каплан, фанатычна адданая ідэі і пакутаваўшая ад таго, што ад яе мала карысці эсэраўскаму руху, сама настойвала на гэтым.

Многія пытанні, якія паўставалі ў звязку з гэтай даўняй гісторыяй, не знайшлі пакуль адназначнага адказу. І самае галоўнае: пытанне, чаму да гэтае пары выканальніцай замаху на У.І.Леніна лічыцца Ф.Я.Каплан, калі дакладна вядома, што страляла Л.В.Канаплёва? — застаецца таксама адкрытае. Звычайна ў такіх выпадках варта задаць яшчэ адно пытанне: каму гэта выгадна? Але і яно вісне ў паветры...

## ПЯТРОЎСКІ

Калі я думаю пра лёс Рыгора Іванавіча Пятроўскага, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета УССР, або, як яго яшчэ называлі, Усеўкраінскага старасты, — нязменна прыходзяць на думку радкі з Бібліі пра Іова, у якога адабралі ўсё: і жонку, і дзяцей, і дом... Мяркую, Сталін, цудоўна ведаючы Біблію яшчэ з часоў навучання ў семінарыі і правяраючы сваё атачэнне на адданасць правадыру, часта згадваў прытчу пра Іова. Успамінаў ды хітра пасмейваўся ў вусы, адпраўляючы ў лагер жонку М.І.Калініна, жонку В.М.Молатава, расстрэльваючы брата Л.М.Кагановіча... Аднадумцы Сталіна, нягледзячы на няшчасці, што на іх абрыналіся, працягвалі сумленна служыць правадыру, цалкам аддаючы сябе гэтаму служэнню, і цяжка сказаць, чаго ў гэтым было болей — страху ці бязмежнай веры. Калі жонка Молатава вярнулася з ссылкі, то нават убачанае ёю ў турме і лагеры не пахіснула яе перакананасці ў неабходнасці рэпрэсій, а тое, што здарылася з ёю, яна ўспрымала як выпрабаванне, пасланае ёй партыяй.

Пытанне, якое гадамі пякло тых, хто ні хвіліны не сумняваўся, што ні Тухачэўскі, ні Якір, ні Бухарын ніякія не "ворагі народа", — але чаму яны прызнаваліся — развязвалася проста і будзённа. Падсудным абяцалі ў выпадку "чыстасардэчнага прызнання", што іх сем'і не будуць пакараныя, таму асуджаныя ішлі на самаагавор і расказвалі пра сябе неверагоднае. Тут ужо не да ідэйных перакананняў... Тое, што жонкі і дзеці "ворагаў", незалежна ад абяцанняў уладаў, аўтаматычна рабіліся "ЧСИР" — па-расейску "членами семей изменников родины", і ішлі па этапе у Цемлаг, Карлаг або "АЛЖИР" (па-расейску — Акмолинский лагерь жен изменников родины) — было натуральным і заканамерным вынікам.

Але былі сярод людзей, на якіх запыніўся погляд галоўнага ката, тыя, каму лёс Тухачэўскага і да яго падобных быў даражэйшы, чым уласны. Адзін з іх — Рыгор Іванавіч Пятроўскі. Гэтаму чалавеку ўласціва сумленнасць — якасць, якая дастаткова рэдка сустракаецца сярод кіраўнікоў дзяржавы. Калісьці мой дзед, будучы ў 20 — 30-я гады супрацоўнікам "Комсомольской правды", распавядаў пра свой удзел у паездцы агітцягніка "Комсомолки" па Украіне. Разам з журналістамі тады ездзіў Пятроўскі. У Харкаве цягнік сустракалі натоўпы, іх ледзьве стрымлівала конная міліцыя. І калі на перон выйшаў Рыгор Іванавіч, людзі ўпалі на калені з лямантам: "Бацюхна, ратуй нас! Мы паміраем!" Быў 1933 год — сотні тысяч людзей гінулі ад голаду па ўсёй краіне, у тым ліку і на Украіне, якую называлі "жытніцай СССР". Першы і апошні раз бачыў мой дзед у вачах дзяржаўнага дзеяча слёзы — спачування і немачы.

**У 1937 ГОДЗЕ,** неўзабаве пасля арышту першага сакратара ЦК КП(б) УССР Касіёра, Сталін выклікаў у Маскву Пятроўскага. Сустрэча адбылася на Лубянцы. У кабінет Яжова ўвялі Касіёра, і Сталін звярнуўся да яго: "Раскажыце, Касіёр, як вы вербавалі Пятроўскага ў контррэвалюцыйную арганізацыю?" Касіёр, гледзячы проста перад сабой, пачаў распавядаць, як ён угаварыў Пятроўскага стаць членам арганізацыі, якая ставіла на мэце звяржэнне Савецкай улады і забойства Сталіна. Пятроўскі абурыўся і ўсяляк адмаўляў агавор, называючы яго лухтой і паклёпам. Касіёра вывелі. Сталін сказаў Пятроўскаму: "Я не ведаю, што будзе з вамі. Не я гэта буду вырашаць".

Пятроўскага вызвалілі ад абавязкаў Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Украіны, ніякай іншай працы не далі, і ён з жонкай паехаў у Маскву — не сумняваючыся ў будучыні і рыхтуючыся да самага горшага.

Час ішоў, а Пятроўскага не арыштоўвалі. Арыштавалі ягонага сына Пятра, камандзіра Чырвонай Арміі, і пасля непрацяглага следства расстралялі. Затым арыштавалі другога сына, Леаніда, генерала (яго вызвалілі ў першыя месяцы вайны і ён загінуў пад Масквой). Арыштавалі дачку і зяця: дачку адправілі ў лагер, а зяця расстралялі. І, нарэшце, арыштавалі жонку. Шмат гадоў яе пратрымалі ў турме і выпусцілі ў 1946 годзе. Выйшла яна смяротна хворая і, пражыўшы на волі сем месяцаў, памерла.

Рыгор Іванавіч доўга і беспаспяхова шукаў працу — любую, ён быў гатоў на ўсё. Сябры, старыя бальшавікі, шчыра спрабавалі яму дапамагчы. Але як толькі яго збіраліся куды-небудзь уладкаваць, як у гэтай арганізацыі тут жа пачыналіся арышты — і спыняліся, як толькі Пятроўскі развітваўся з думкай пра гэту працу.

Калі ўсе родныя і блізкія Рыгора Іванавіча былі знішчаны або адпраўлены ў месцы даволі аддаленыя, Сталін вырашыў пакінуць Пятроўскага ў спакоі і не ўмешваўся болей у ягоны лёс. Былы Усеўкраінскі стараста стаў загадчыкам гаспадаркі, а пазней — намеснікам дырэктара музея Кастрычніцкай рэвалюцыі, дзе працаваў да канца жыцця...

У 1954 годзе вызвалілі дачку Рыгора Іванавіча. Шмат гадоў Пятроўскі не расказваў нікому аб сваёй трагедыі і толькі незадоўга да смерці, у 1967 годзе, распавёў пра яе ўнуку Леаніду, сыну расстралянага Пятра Рыгоравіча. Маўчанне доўжылася роўна трыццаць гадоў...

Рыгор Іванавіч Пятроўскі памёр у пачатку 1968 года. Памёр, забыты ўсімі, акрамя нешматлікіх сваякоў і сяброў, якія засталіся ў жывых. Забыццё было ягонай доляй як пры жыцці, так і пасля смерці...

## МІЛЕР

*"Но ты, ловец, в какую даль проник*
*ты за мной, чтобы поймать меня*
*в свой мешок, как в невод?.."*

*Міхаіл Булгакаў. "Бег".*

Позняй восенню 1937 года ў адзіночнай камеры Лубянскай турмы з'явіўся зняволены № 109. Пратаколы допытаў не зафіксавалі ні прозвішча няшчаснага, ні прозвішча следчага: на іх стаяў грыф "Совершенно секретно" і яны доўгія дзесяцігоддзі былі схаваныя ад вачэй даследчыкаў. Адрознівала допыты зняволенага № 109 ад іншых пратаколаў тая акалічнасць, што ў іх адсутнічалі звычайныя, уласцівыя таму часу выразы пра "вредительскую деятельность", "происки врагов", "контрреволюционный заговор", а вялася падрабязная стэнаграма дыялога следчага і зняволенага.

№ 109 быў ужо немалады: у хуткім часе пасля зняволення ў вязніцы яму спаўнілася 70 гадоў. Адрозна ад большасці зняволеных ён сапраўды быў ворагам Савецкай улады — таму, думаю, і не меў ілюзій наконт свайго лёсу. Калі яго і білі, то, лічу, не надта стараліся — не дзеля таго яго перапраўлялі праз дзве мяжы, каб тут жа забіць на допытах. Ён ад нічога не адмаўляўся і пра сябе расказваў дастаткова падрабязна, але як толькі заходзіла гаворка аб кімсьці іншым або размова зняволенага № 109 даходзіла да месца, за якім мусілі ісці прозвішчы, ён замаўкаў і ад яго нічога нельга было дабіцца.

У адзіночнай камеры Лубянкі № 109 пражыў два гады. У 1939 годзе, ва ўзросце 72 гады, без суда і вынясення прысуду, ён быў расстраляны.

Пасля грамадзянскай вайны, калі руская армія была рассыпана па свеце, у Парыжы, дзе асела большая частка рускага воінства, быў заснаваны "Саюз рускіх афіцэраў". Старшынёй штаба гэтай арганізацыі стаў адзін з найбольш паважаных военачальнікаў — Іван Іванавіч Мілер.

Савецкая разведка рабіла ўсё магчымае, каб дэзарганізаваць дзейнасць гэтага саюза, члены якога карысталіся вялікім аўтарытэтам у ваенных і палітычных колах Захаду. Іх старанна дыскрэдытавалі ў вачах заходняй грамадскасці, нярэдка забівалі і, па магчымасці, выкрадалі. Савецкая літаратура нездарма імкнулася надаць дзеянням Замежнага аддзела ОГПУ-НКВД рамантычны арэол: чэкісты хутчэй пакрылі сябе недаравальнай ганьбай, чымсці неўміручай славай. Толькі ў 1937 годзе імі былі здзейснены ў краі-

(Заканчэнне на стар. 8)

АСОБА Ў КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ



# Віктар ТУРАЎ: "ПРА СЯБРОЎСТВА З ВЫСОЦКІМ Я МАЎЧАЎ ШАСНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ..."

## Дыялог пра чалавека, які ішоў "у страі заўсёды не ў нагу..."

*(Працяг. Пачатак у № 42)*

**Барыс КРЭПАК:** Такім чынам, Высоцкі прыехаў на кінавыпрабаванні ў Мінск, калі, па сутнасці, выпрабаванні ўжо скончыліся?

**Віктар ТУРАЎ:** Увогуле так. На гэтую ролю — ролю танкіста-лейтэнанта — ужо быў прызначаны акцёр: Аляксей Пятрэнка, ці Уладзімір Заманскі, ужо не памятаю дакладна, таму што прабаваліся яны абодва. Але справа не ў гэтым. Пасля першых здымак Валодзі Высоцкага пайшоў запіс. І так атрымалася, што мы ўпершыню запісалі ягоныя песні на прафесійную шырокую магнітную стужку. А потым мы пайшлі ў інтэрнат на "мужчынскую" вячэру, дзе Валодзя таксама спяваў, акампануючы на гітары. Пасля вячэры зазірнулі да мяне: я жыў тады ў камуналцы побач з кінастудыяй. Не, не зусім так... Пасля інтэрната я паехаў праважаць Валодзю на вакзал. Па дарозе зайшлі ў кафэ Дома акцёра, там яшчэ троху пасядзелі. І тут паступова паміж намі ўтварылася тое, што можна назваць аўрай унутранай сімпатыі, унутранага прыцягнення: нас, нібыта магнітам, пацягнула адзін да аднаго.

**Б.К.:** І тады ты едзеш з Высоцкім да цябе?

**В.Т.:** Не, спачатку на вакзал. Здалі білет, на гэтыя грошы набылі яшчэ выпіць і закусіць. І толькі пасля гэтага паехалі да мяне. Я тады жыў адзін, жонка знаходзілася ў Магілёве. Карацей, прагутарылі з Валодзем амаль да раніцы.

**Б.К.:** Ці не памятаеш, пра што вы тады размаўлялі?

**В.Т.:** Як ні дзіўна, але памятаю, хаця мінула ўжо больш за трыццаць гадоў. Ён расказваў пра сябе, пра сваю сям'ю. Я даведаўся, што ў яго ад другой жонкі, Люсі Абрамавай, ужо двое дзяцей — старэйшаму сыну гады тры ці чатыры, малодшаму — каля года. Але з Люсяй яны афіцыйна тады не былі зарэгістраваныя... Пачакай, не, здаецца, ужо аформілі шлюб — ужо зараз дакладна не памятаю...

**Б.К.:** Хто такая першая жонка і хто такая Люся Абрамава?

**В.Т.:** Першая жонка Іза Мяшкова, актрыса. А з Люсяй Абрамавай ён пазнаёміўся ў Ленінградзе на здымках карціны "713-ы просіць пасадкі".

**Б.К.:** Пра што яшчэ распавядаў Высоцкі?

**В.Т.:** Пра школу-студыю Маскоўскага мастацкага акадэмічнага тэатра, пра нядоўгае знаходжанне ў Пушкінскім тэатры, дзе быў у адной трупе з Ранеўскай і Чырковым. Пра тэатр мініяцюр, дзе ён таксама троху працаваў і дзе збіраліся нават ставіць спектакль паводле ягоных тагачасных (!) песень. Валодзя — быў такі выпадак — дэбютаваў і ў тэатры "Сучаснік" у ролі, якую звычайна іграў Еўсцігнееў. Але не прыжыўся. Некаторы час хадзіў увогуле без працы з працоўнай кніжкай, дзе было запісана: "Звольнены за сістэматычнае парушэнне працоўнай дысцыпліны".

**Б.К.:** А потым была Таганка?

**В.Т.:** Так, у тэатр яго прывёў, як распавядаў Валодзя, Слава Любшын. І першая роля, прапанаваная яму Любімавым, была роля драгунскага капітана ў спектаклі "Герой нашага часу", хаця аб гэтай сваёй ролі Валодзя расказваў з іроніяй і ўсмешкай. Тэатр толькі-толькі пачынаў фармавацца і, натуральна, тады Высоцкі быў далёка не тым Высоцкім, пра якога потым даведаліся, ды і Любімаў толькі пачынаў фармуляваць свае эстэтычныя прынцыпы.



*На здымку (злева направа): Марына Уладзі, Уладзімір Высоцкі, Святлана Сухавей і Віктар Тураў на Наваградчыне. 1969 год, час здымак фільма "Вайна пад дахамі". Друкуецца ўпершыню. (З архіва В. Турава).*

**Б.К.:** Ну, і як далей разгортваліся падзеі ў Мінску?

**В.Т.:** Даволі цікава. Валодзю ў гэты ж дзень трэба было быць на рэпетыцыі ў тэатры: наконт гэтага ў Любімава былі жалезныя патрабаванні. Але так здарылася, што ў нашых кішэнях грошай практычна не засталося, тым больш на авіябілет, і трэба было шукаць нейкае выйсце. Выскачылі на праспект, але, як гэта здараецца ў падобных выпадках, таксі нібыта зніклі. Затое злавілі... матацыкл з каляскай і — у аэрапорт! І ўсё ж у мяне засталася надзея, што ўсё скончыцца добра. Прыбег у касавую залу, падляцеў да акенца і проста выклаў касіршы, у чым справа. Вось я, Тураў, беларускі кінарэжысёр, а гэта вось — артыст маскоўскага тэатра, і яму тэрмінова патрэбен білет на самалёт. Але грошай няма. Выдайце білет, а грошы я прывязу пазней. І ў якасці закладу прапаную ёй свой пазалочаны гадзіннік. Касірша ўсміхнулася і выдала білет. І тут раптам у зале з'яўляюцца Віця Тарасаў і Гена Аўсяннікаў, якія ляцелі на гастролі свайго Купалаўскага тэатра ў Магілёў. Зразумела, яны накіроўваліся ў буфет. Час да адлёту яшчэ заставаўся, і мы паспелі выдатна паснедаць. Калі аб'явілі пасадку, у самага турнікета раптам Валодзя павярнуўся да мяне і вымавіў неяк ціха, пранікнёна: "Віця, вазьмі мяне на ролю. Далібог, не падвяду..." І гэта было сказана так проста, з такой інтанацыяй у голасе, што ў мяне ўжо ніякага сумніву не было: здымаць Высоцкага замест ужо зацверджанага іншага акцёра. Тым больш, што Валодзя іспыты прайшоў нармальна.

**Б.К.:** Але выбар акцёра, мабыць, не заўсёды залежыць ад рэжысёра? Як рэагаваў мастацкі савет на такі малафатагенічны і не вельмі выразны твар Высоцкага? У гэты ж час на экране зіхацелі зусім іншыя тыпажы кінагерояў?

**В.Т.:** Цалкам справядліва. Тады савецкі экран патрабаваў такія акцёрскія тыпы, як малады Сяргей Бандарчук, Сяргей Гурзо, Вячаслаў Ціханаў, Васіль Ланавы. Чаму, скажам, так доўга не здымалася чароўная Аліса Фрэйндліх? Ды таму, што лічылася: у яе не фотагенічны твар, хаця ўсе ўжо прызнавалі неардынарны талент актрысы. Зараз гэта падаецца дзіўным, але так было... І тады мы вынайшлі для Валодзі адпаведны ягонай ролі грым: сівы парык, дэфармавалі губы, зрабілі яму "абпалены" твар і шрам — атрымаўся параненны лейтэнант. І мастацкі савет зацвердзіў Валодзю на гэтую ролю... Калі карціну пачалі здымаць, адразу ж вызначыліся і тыя песні, якія ён напісаў раней, гады два-тры таму. А асноўнай песняй фільма стала "На брацкіх магілах". У працэсе здымак з'явіліся і іншыя песні Высоцкага...

**Б.К.:** Дзе ты здымаў карціну?

**В.Т.:** Спачатку ў Слоніме і Ружанах. Тут, у Слоніме, адбылася мая другая сустрэча з Валодзем. Ён павінен быў прыехаць сюды на дзень-два, каб ужо канчаткова вызначыць грым, касцюм, іншыя аксесуары. У Слоніме мы пачыналі здымаць першыя эпізоды карціны, дзе Высоцкі не быў заняты. І вось ён тэлефануе мне са Стаўраполля, дзе да таго часу скончыў здымкі ў "Кухарцы" Эдмонда Кеасаняна. Тэлефануе і кажа, што едзе да нас... разам з дзвюма выпускніцамі ВГИКа, якія здымаліся разам з ім.

**Б.К.:** І што ты падумаў?

**В.Т.:** Падумаў, што калі яны ляцяць з Кубані, віннага краю, дык, натуральна, прыедуць вельмі вясёлыя, у прыўзнятым настроі. У гэты дзень мы здымалі ў Ружанах, у разбураным старым замку Сапегаў. Скончыўшы здымкі, прыязджаем ў наш слонімскі гатэль. Насустрач дзяжурная: "Ой, Віктар Цімафеевіч, тут вас чакаў вясёлы малады чалавек, усё вас пытаўся. Я яму сказала, што вы здымаеце ў Ружанах. Ён пакруціўся-пакруціўся і некуды знік". Мінае нейкі час і з'яўляецца Валодзя, сапраўды вясёлы, гаваркі, душа на далоні. Аказваецца, са Стаўрапаля ён ляцеў на Беларусь праз Маскву. У маскоўскім аэрапорце гэтых дзвюх дзяўчат-актрыс сустрэлі іхнія сябры і зацягнулі ў рэстаран. Ну, а Валодзя, ужо сам, паляцеў да Мінска, а адтуль дабраўся да Слоніма.

**Б.К.:** А не знайшоўшы цябе ў Слоніме, накіраваўся ў Ружаны?

**В.Т.:** Дакладна. Але там, натуральна, мяне ўжо не было, мабыць, дзесьці разышліся па дарозе... А самае цікавае тое, што Валодзя — хочаш вер, хочаш не вер — прывёз з сабою са Стаўраполля велізарную, 30-літровую бутлю мясцовага кагору. Як ён яе вёз праз Маскву — дасюль не магу зразумець...

**Б.К.:** І што вы зрабілі з гэтым віном?

**В.Т.:** А ты не ведаеш, што робяць з віном? Наладзілі свята для ўсёй здымачнай групы. Знайшлі тазік, вылілі туды віно, а затым разлілі яго па збанах. Уяўляеш, якая была ліпкая падлога ад пралітага кагору? Адзначу ў дужках, што падчас гэтага кароткага знаходжання ў Слоніме Валодзя вельмі пасябраваў з Аляксеем Аляксандравічам Бараноўскім, нашым цудоўным "купалаўцам" і, нягледзячы на вялікую адрознасць ва ўзросце, яны пастаянна былі разам, пакуль я быў заняты на здымках. Памятаю, на наступны дзень абодва так "разышліся", што накупілі шмат шампанскага і шакаладу і галантна частавалі нашых жанчын са здымачнай групы і супрацоўніц гатэля. Позна ўначы, зноў жа з прыгодамі, я адправіў Валодзю на таксі ў мінскі аэрапорт: яму было неабходна быць у Маскве на спектаклі...

**Б.К.:** Захавалася фатаграфія з выявай Высоцкага і Яўгена Ганкіна — мастака-пастаноўшчыка тваёй карціны — на чыгуначным вакзале ў Гродне. Яны стаяць на першым плане на рэйках, злева — натоўп людзей, справа — цягнік з цыстэрнамі. Вы здымалі потым карціну ў Гродне?

**В.Т.:** Так, я памятаю гэтую фатаграфію. Сапраўды, мы шмат эпізодаў адзнялі ў Гродне. Але тут атрымалася такая гісторыя. Усё нібыта было добра. Аднак у Валодзі ў гэты час ужо пачалі адбывацца вялікія перапады, зніітаваныя са спецыфічным ладам творчага жыцця. Ён мог у пэўныя перыяды вельмі шмат працаваць, спяваць на канцэртах, іграць у тэатры, працаваць у кіно, ствараць вершы і музыку. Нагрузкі, павінен табе сказаць, былі ашаламляльныя.

**Б.К.:** З прычыны таго, што ён быў чалавекам вельмі эмацыйным, лёгка захапляўся, быў адкрытым, дык стрэсы ён здымаў, як вядома, з дапамогай алкаголю...

**В.Т.:** Так. Да таго ж ён быў вельмі абаяльны, усім было з ім цікава, і творчыя сустрэчы заканчваліся зазвычай "сяброўскімі бяседамі". І тады ўжо Валодзя ўваходзіў "у піке", і надоўга. А спыніць яго можна было толькі тады, калі надыходзіла ягоная "мяжа". Аднак, ён нікому не рабіў асаблівых клопатаў, больш пакутаваў сам... І тут, падчас здымак фільма "Я родам з дзяцінства" ўзнікла неабходнасць ягонай ізаляцыі і лячэння. Для мяне гэтая праблема была дастаткова пакутлівай, бо галоўныя эпізоды з Высоцкім яшчэ не былі адзнятыя. Што рабіць? І тут мне тэлефануе Ніна Максімаўна, Валодзіна мама: "Віця, калі ёсць магчымасць, здымай пакуль сцэны, дзе Валодзя не заняты. Бо калі ён прыйдзе да нормы і даведаецца, што яго вывелі з карціны, дык для яго гэта будзе страшэнным ударам".

**Б.К.:** А ты ведаў Ніну Максімаўну?

**В.Т.:** Не вельмі блізка, але ведаў. Яны жылі тады з Валодзем у невялікай двухпакаёвай кватэры ў знакамітым дзесятым эксперыментальным раёне, які заклаў Хрушчоў, марачы зрабіць яго правобразам камунальнага жыллёвага раёна для працоўнага класа з усёй інфраструктурай: кінатэатрамі, крамамі, пральняй, піўнымі барамі, кнігарнямі. Гэта быў асаблівы раён. Там, паміж іншым, атрымаў сваю першую кватэру і Гена Шпалікаў з Інай Гулая — літаральна праз два дамы ад Высоцкіх...

**Б.К.:** Прабач, але вось што наконт гэтай кватэры кажа Людміла Абрамава: "Я з пяшчотай узгадваю тую кватэру ў Чаромушках (вуліца Шверніка зараз перайменавана ў вуліцу Тэлебачання) — у кардоннай пяціпавярхоўцы, без ліфта — туды прыходзілі лепшыя сябры — Гена Шпалікаў і Віця Тураў. Там закусваў скараспелымі блінамі пасля першага наведвання "Галілея" Аркаша Стругацкі...". Словам, Ніна Максімаўна патэлефанавала табе і...

**В.Т.:** Яшчэ яна сказала, што карціна "Я родам з дзяцінства" для Валодзі дарагая, што роля яму вельмі падабаецца... Але, дзякаваць Богу, нам тады кінакіраўнікі дазвалялі планаваць так, што нейкі час мы маглі абысціся без тых сцэн, дзе Валодзя быў заняты. А потым ён вярнуўся да нас, і мы без прыгод скончылі здымкі.

**Б.К.:** Ці ўсе сцэны з Высоцкім увайшлі ў карціну?

**В.Т.:** Не, не ўсе. Адна сцэна, на вялікі жаль, з-за аб'ёму, які дыктуе кіно, пайшла ў мантажны зрэз і паводле патрабаванняў кагосьці з кіраўніцтва не ўвайшла ў фільм. Праўда, я думаў, што яна хаця б захаваецца, але ў нас існуе неверагоднае глупства — дзеля эканоміі нейкага грама срэбра змываць стужку. І — змылі.

*(Працяг будзе)*



# ЗАМЕСТ КРОПКІ

# “ЛЭДЗІ-ЛІДЭР”: ЖАНОЧЫ ПАРТРЭТ

Салоны, прысвечаныя жанчынам, бывалі. Салоны, якія наладжваюць жанчыны-зоркі, каб “зорка” зазіхацела яшчэ “ярчэй” —таксама не рэдкія. А вось такія — “самаарганізаваныя” жанчыны, якія стварылі свой клуб і наладзілі для горада свята на “жаночую тэму”, — такога, мабыць, яшчэ не было. Прысутнічаючы на салоне-вернісажы “Жаночы сучасны беларускі партрэт у жывапісе”, адчуваючы ягоную атмасферу, адзначаючы высокую арганізаванасць імпрэзы, радуючыся таму, што здолелі зрабіць гаспадыні клуба “Лэдзі-лідэр”, я падумаў : калі б болей было такіх жанчын на кіруючых дзяржаўных пасадах, тады, магчыма, нам жылося б лягчэй.

Адна з гаспадынь салона, *галоўны рэдактар “Беларускай гандлёвай газеты”* **Ірына АСМАЛОЎСКАЯ**, наладзіла з мастакамі, аўтарамі прадстаўленых твораў — Уладзімірам Тоўсцікам, Уладзімірам Кожухам, Вольгай Сазыкінай, Рыгорам Несцеравым,Віктарам Альшэўскім, Леанідам Дударэнкам, Міхаілам МоўчанамЛеанідам Шчамялёвым і Аляксандрам Кішчанкам — публічнае міні-інтэрв'ю. Калі абагульніць адказы творцаў, дык атрымаецца наступнае: “Жанчына займае ў творчасці і ў жыцці не толькі першае, але і галоўнае месца”. А маё міні-інтэрв'ю з самой Ірынай выглядала так:



— Дзеля чаго Вы стварылі свой клуб?

— Дзеля ўзаемадапамогі адна адной у працы і ў асабістым жыцці. Кожны трэці чацвер — наш клубны дзень. Дзеля гэтай сустрэчы адмяняецца ўсё іншае. Мы гутарым і адпачываем. Мы ўсе — людзі справы. Справа сёння ў нас здзяйсняецца цяжка. Тым не менш жанчыны робяць яе лепей за мужчын. Але і ім трэба зрэдчас адпачываць. Вось тут мы і “знайшлі” свой клуб. Жанчыны ў гэтым складаным свеце павінны дапамагаць і падтрымліваць адна адну. А калі нам будзе добра, дык і мужчынам — някепска. Мы зрабілі сябе самі, працуючы па чатырнаццаць гадзін на суткі, мы зрабілі сябе асобамі, і мы маем маральнае права на стварэнне такога клуба, клуба высокіх памкненняў, а цяпер ужо, як бачыце, клуба грамадскага значэння. Мне прыемна, што газета “Культура” прысутнічае на нашым вернісажы. Калі вы будзеце шукаць сяброў клуба — вызначальная прыкмета: сінія банцікі ў пятліцах. (Я і шукаў іх, гэтыя банцікі.)

Кожны наведнік мог паразмаўляць з мастаком, пачуць гісторыю стварэння карціны, многія фатаграфаваліся на фоне партрэтаў з аўтарам і гераіняй карціны. Гучалі цудоўныя рамансы, песні, музыка.

Сярод мастакоў, якія прадаставілі салону свае творы, быў разыграны прыз: пуцёўка ў Швейцарыю. Яе атрымаў Віктар Альшэўскі.

— Што адчувае чалавек, які выйграў пуцёўку ў Швейцарыю?

— Мне здаецца, калі б гэта адбылося раней, калі я быў маладзейшы, эмоцый было б болей. Хаця, мяркую, што праз дні два-тры я ўсведамлю, што мне пашчасціла. Але галоўнае, што мяне зараз турбуе, гэта магчымасць працаваць і, як узнагароду, хоць зрэдку бачыць такія вочы, як сёння, што глядзяць на тваю карціну. Рэдка сустрэнеш такіх гледачоў! А якія жанчыны!..

— Ідэя салона пачалася з адной карціны, — растлумачыла мне прэзідэнт галерэі “Штандар” і дырэктар галерэі “Цэнтр” Марына ДЗЯЛУН. — Вось з гэтай.

Яна падводзіць мяне да палатна Віталя Цвірко “У студэнцкім інтэрнаце”.

— Гэта дыпломны твор майстра, напісаны ў 1940 годзе. Правяраючы ў сваіх сховішчах захаванасць карцін, я знайшла яе. І тады ўзнікла ідэя не проста клубнай вечарыны, а салона, прысвечанага жанчыне ў жывапісе. Ідэя была цікавая і для клуба “Лэдзі-лідэр”, і для нашых галерэй. І вось яна здзейснілася. Чым часцей мы будзем так сустракацца, тым лепей будзе нам усім.

**Элеанору ЯЗЕРСКУЮ** я ўбачыў каля ўласнага партрэта: яна фатаграфавалася з кімсьці з наведнікаў.

— Музычны салон, які я прадстаўляю і ствараю, рады вітаць салон клуба “Лэдзі-лідэр”, які прысвечаны такой цудоўнай падзеі, як выстава жаночага партрэта. Сёння наладжваецца шмат тусовак. Але адна справа, калі невядома хто спявае невядома што, і іншая — калі збіраецца культурная эліта на раут з нагоды сапраўднага мастацтва. Бо з гэтага збору твораў, якія мы з вамі бачым, можна было б выдаць альбом “Сучасны беларускі жаночы партрэт”, і гэта будзе выданне, вартае ўвагі.

І мяне зусім не раздражняе, што сярод нас з’яўляюцца заможныя людзі. Калі яны свае магчымасці выкарыстоўваюць так, як тут, у клубе, дык хай такіх людзей будзе больш. Мы пакуль яшчэ не ўсвядомілі, што галеча ёсць хібай і заганай, і ад беднасці, у першую чаргу, пакутуе духоўнасць. Багатыя ж павінны прайсці шлях ад конкурсаў прыгажосці да конкурсаў жывапісу.

Мне падабаецца тое, што зараз адбываецца на нашых вачах. Гэта цудоўна і значна. Хай будзе шмат багатых і шмат духоўнасці.

**Надзея АЎДЗЕЕНКА,** *адвакат Мінскай гарадской калегіі адвакатаў, сябра міжнароднага “Лайн-клуба”.*

—Я бачу сваё прызначэнне не толькі ў прафесійнай, але і ў грамадскай дзейнасці. Клуб “Лэдзі-лідэр”, які аб’ядноўвае сёння дваццаць жанчын, сэнс свайго існавання бачыць у кансалідацыі лепшых сіл у грамадстве. А паколькі гэтую задачу немагчыма выканаць без стасункаў паміж лепшымі прадстаўнікамі гэтых сіл, мы і вырашылі садзейнчіаць гэтаму. Вы прысутнічаеце на адной з такіх сустрэч. Тут сабраліся цудоўныя людзі, цудоўныя мастакі і цудоўныя карціны. А пра тое, што тут шмат чароўных жанчын, лішне казаць. Маім калегам, сяброўкам нашага клуба, і мне асабіста гэта падабаецца. Нам бачны грамадскі сэнс гэтай падзеі.

**Галіна НЕСЦЯРЭНКА,** *прэзідэнт кампаніі “Палі”*, якая займаецца эстэтычнай рэканструктыўнай стаматалогіяй:

— Я ўпершыню на такой імпрэзе. Яна выклікае ў мяне добрае пачуццё: усё жыццё жанчын заганялі на кухню і ў спальню. І вось — сёння мы сведкі гэтага — нашыя жанчыны цудоўна праявілі сябе ў грамадскім жыцці, не прасіўшы ні ў кога ні дапамогі, ні капейчыны. Глядзіце, колькі цікавых людзей сабралася, якія ў іх твары! Усе размаўляюць паміж сабой (нам вельмі нестае гэтага!), адпачываюць (нам гэта таксама неабходна!) і атрымліваюць асалоду (гэта здараецца так рэдка!). Тут няма выпадковых людзей — гэта кола знаёмых сяброў клуба, і ўсе яны — Асобы. А гаспадыні! На маю думку, ім могуць пазайздросціць жанчыны з Захаду! Разумныя, інтэлігентныя, адукаваныя, яны цудоўна выглядаюць. А як яны апранутыя! Упэўненыя ў сабе, поўныя годнасці — і гэта ўсё адбываецца на фоне складанай, а часам і жорсткай рэальнасці. І тое, што адбываецца сёння, спараджае надзею, што мы не заўсёды будзем жыць так, як зараз. Гэта — вернісаж натхнення і надзеі, я б так вызначыла ягоны накірунак. Гэта ўсё так прыгожа!

**Ірына БАВЕНКА,** *сябра клуба, кіраўнік турыстычнай фірмы “Беларыенцір”:*

— Мы ў клубе даўно выношвалі ідэю: зрабіць свой унёсак у развіццё



Л.Шчамялёў. “Лета”.



Л.Дударэнка. “Дзень Перамогі” (фрагмент).

культуры на Беларусі, штосьці новае, высокага гучання. Я і мае сяброўкі лічым, і як паказала сённяшняя падзея, лічым правільна, што жанчына — крыніца натхнення ва ўсім, у тым ліку, і ў мастацтве. І хаця сябры клуба — гэта жанчыны, якія прадстаўляюць не толькі гуманітарны накірунак, а хутчэй, наадварот — мы амаль усе займаемся бізнесам, але аднадушна вырашылі прыцягнуць увагу грамадскасці менавіта да культурнага, духоўнага пачатку ў жанчыне. І вырашылі наладзіць шэраг такіх вечарын, падвысіўшы цікавасць да мастацтва, прысвечанага жаночай тэматыцы.

— Simpatico, simpatico, — пракаментаваў салон італьянскі бізнесмен і навуковец Рыкарда Кроці. Ён — доктар біялогіі, займаецца эстэтыкай, парфюмерыяй, фармакалогіяй. Год таму ён адкрыў на Беларусі сваю фірму. Сіньёру Кроці вельмі спадабаліся творы вернісажу, ён нават быў гатовы набыць тое-сёе. Але — не прадаюць. Безумоўна, жывыя жанчыны, што бяруць удзел у прыёме, значна лепш за напісаных, бо яны — жывыя. Яму прыемна, што мастакі, з якімі ён пазнаёміўся на выставе, наведвалі Італію, і што адбыўся карысны абмен меркаваннямі наконт культур абедзвюх дзяржаў. Гэтая вечарына, як мяркуе сіньёр Кроці, унесла свае яркія фарбы ў агульную карціну культурнага жыцця на Беларусі.

— На жаль, мне трэба ісці, бо так складваюцца абставіны, — шкадаваў італьянец, развітваючыся.

**Валянціна ЕШЧАНКА,** *дарадца па культуры Амбасады Украіны на Беларусі:*

— Мне цікава ўсё тое, што тут адбываецца. Гэта сведчанне таго, што на Беларусі, дзе жывецца складана, як і на Украіне, адбываюцца працэсы, што выклікаюць аптымізм. Я курырую ў сваёй амбасадзе пытанні гуманітарнай сферы, але ўпершыню пабачыла такую выставу беларускага жаночага партрэта. Мы чулі пра існаванне клуба “Лэдзі-лідэр”, а сёння пашчасціла і пабачыць гэтых цудоўных, энергічных жанчын. І зразумелі, што іхнія справы — гэта не толькі прыгожыя словы аб клубе, але і вартыя гонару патрыятычныя і грамадзянскія справы, якія робяць важкі ўклад у культуру Беларусі. Гэта пачатак таго, што даўно прадбачылі разумныя людзі: эліта пачынае паглыбляць і пашыраць цывілізаваны працэс на дзяржаўным узроўні.

**Людміла ШЧАСНАЯ,** *псіхолаг:*

— Я адчуваю сум і радасць адначасова. Чаму ж нашы жанчыны такія незапатрабаваныя, чаму ж мы нікому не патрэбныя, нягледзячы на тое, што сярод нас так шмат таленавітых? Час зараз малаэмацыйны, халодны, але ж гэты салон прадэманстраваў, колькі цеплыні і пачуццяў могуць прынесці і аддаць жанчыны. Таму ў маёй душы зараз болей тугі, чым радасці, хаця салон атрымаўся бліскучы, з чым я віншую ягоных гасцінных гаспадынь...

**Вось такое яно, першае грамадскае з’яўленне клуба “Лэдзі-лідэр” на фоне культурнага жыцця краіны. Першае, але ўпэўненае, сярод шэрагу “жаночых партрэтаў”: у музыцы, паэзіі, кіно, модзе, візажыстыцы.**

**Шмат разоў за доўгую і цяжкую гісторыю наша грамадства дзякавала сваім жанчынам за іхнюю выратавальную місію на гэтай зямлі. І гэтая культурааховая, аптымістычная падзея адышла ў гісторыю — жаночы салон-вернісаж, які сабраў увесь інтэлектуальны Мінск на “свята душы”, які даў яшчэ адзін імпульс духоўнаму адраджэнню і ўздыму. У прыгожай зале дыхалася лёгка: было светла, высока і хораша. І гэта зрабілі Жанчыны. Дваццаць цудоўных беларускіх жанчын. Дзякуй Вам, лэдзі! Вы сапраўдныя Лэдзі-Лідэры!**

**Госцем салона-вернісажу быў Навум ЦЫПІС**

# АДЗІН ЛЁС

(Пачатак на стар. 6)

нах Захаду больш за сто пяцьдзесят тэрарыстычных актаў.

**НАМАГАННІ** Замежнага аддзела былі б не надта эфектыўныя, калі б не дапамога афіцэраў, на шчасце, нямногіх, завербаваных савецкай разведкай. Адзін з іх — генерал Скоблін, намеснік Мілера, які пачаў працаваць на НКВД у пачатку 30-х гадоў. Менавіта ён выдаў энкавэдэшнікам генерала Куцепава, якога, дарэчы, не ўдалося давезці да Савецкага Саюза: Куцепаў так адчайна супраціўляўся, што чэкістам давялося яго забіць.

Захоп генерала Мілера стаў мараю НКВД. Аўтарытэт гэтага чалавека на Захадзе быў велізарны; нягледзячы на паважаны ўзрост — Іван Іванавіч Мілер нарадзіўся ў 1867 годзе — генерал быў важкаю персонаю, і да яго сыходзіліся многія ніці; на самой справе ён не проста ўзначальваў штаб рускага афіцэрства ў Парыжы — Мілер быў у лепшым сэнсе гэтага слова нефармальным лідэрам усяго рускага воінства, якое апынулася за мяжой.

На пачатку восені 1937 года Скоблін паведаміў Мілеру, што з ім хочуць сустрэцца прадстаўнікі германскага генералітэта. Мілер пакінуў у кабінеце на стале запіску пра тое, што едзе на сустрэчу з нямецкімі вайскоўцамі, арганізаваную Скобліным. Скоблін пра гэтую запіску не ведаў. У дамоўленым месцы генералаў чакалі, і Мілер быў схоплены. З гэтага моманту рускі генерал Іван Іванавіч Мілер перастаў існаваць, саступіўшы месца зняволенаму № 109.

Скоблін вярнуўся ў Парыж. Калі ён прыехаў у штаб, яго спыталі, ці не ведае ён, дзе Мілер і калі ён бачыў яго ў апошні раз. Скоблін назваў дату, якая зусім не адпавядала іх ад’езду. Скобліна папрасілі затрымацца ў кабінеце “да высвятлення абставінаў”, ён убачыў на стале спецыяльна пакінутую запіску Мілера і зразумеў, што гэта — правал. Але яму ўдалося ўцячы.

Пасля ўцёкаў генерал Скоблін выйшаў на сувязь з чэкістамі. Ён настойваў на тым, каб яго перапраўлілі ў Маскву. Чэкісты, разумеючы, што іх прысутнасць у Францыі надалей непажаданая, разам са Скобліным пакідаюць краіну, але яго падчас пералёту выкідваюць з самалёта — ён болей не ўяўляў ніякай карысці для разведкі. Па вяртанні ў СССР разведчыкі атрымалі ўзнагароды і атабарыліся ў аддзеле тэхнічных перакладаў аднаго з маскоўскіх навукова-даследчых інстытутаў: кар’ера ў разведцы была для іх, безумоўна, закончаная.

Доўгія гады лёс Івана Іванавіча Мілера быў невядомы і толькі дзякуючы намаганням Дваранскага сходу Масквы нарэшце раскрыта таямніца выкрадання і смерці выдатнейшага рускага военачальніка.

* * *

**АДЗІН ЛЁС** аб’яднаў такіх розных паводле перакананняў і светаадчування людзей. Што агульнага паміж эсэркай Каплан, манархістам Мілерам, бальшавіком Пятроўскім? Нічога, акрамя лёсу. Трагічнага, прыгатаванага мільёнам такіх розных людзей...

**Рыгор КАРПІЛАЎ**

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Ірына ДЗІВІНА
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 11.10.96. у 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2880
Замова
Друкарня выдавецтва “Беларускі Дом друку”. 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.